

# ЗВЯЗДА

**3** КАСТРЫЧНІКА 2001 г. СЕРАДА

№ 205 (24321)

ВЫДАЕЦЦА З 9 ЖНІЎНЯ 1917 Г.

Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

КОШТ 60 РУБЛЁЎ

## РОЗГАЛАС

ІНФАРМАЦЫЯ З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### ПЛАТА ЗА КАМУНАЛЬНЫЯ ПАСЛУГІ НЕ ПАВЯЛІЧЫЦЦА

Плата за камунальныя паслугі з пачаткам ацяпляльнага сезона ў рэспубліцы не павялічыцца.

Як растлумачылі карэспандэнту БЕЛТА ва ўпраўленні эканомікі Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, гэта абумоўлена тым, што цяпер тарыфы для насельніцтва адпавядаюць прадугледжанаму Законам «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2001 год» узроўню пакрыцця грамадзянамі затрат на гэтыя паслугі. Нагадаем, што ацяпляльны сезон у краіне пачнецца тады, калі сярэднясутачная тэмпература паветра на працягу 5 дзён будзе ніжэй за 8 градусаў.

**Андрэй ШМЫГІН, БЕЛТА.**

### «БЕЛСЕЛ» ВЫЗВАЛІЎ СВАІХ АБАНЕНТАЎ АД ПЛАТЫ ЗА ПАСТУПАЮЧЫЯ ЗВАНКІ

**Як паведамілі «Звяздзе» ва ўпраўленні маркетынга Рэспубліканскага аб'яднання «Белтэлекам», з 1 кастрычніка гэтага года былі ўведзены тарыфы на паслугу доступу да абанентаў сеткі «БелСел».**

Тарыф на тэлефонныя размовы ў межах Беларусі абанентаў тэлефоннай сеткі агульнага карыстання з абанентамі сеткі «БелСел» складае для насельніцтва ў рабочыя дні тыдня з 6 да 23 гадзін 120 рублёў за хвіліну, з 23 да 6 гадзін раніцы, а таксама кругласутачна ў выхадныя і святочныя дні — 80 рублёў за хвіліну. Для суб'ектаў гаспадарання ў рабочыя дні тыдня з 6 да 23 гадзін дзейнічае тарыф 98 рублёў за хвіліну без уліку ПДВ, а ўвесь астатні час (з 23 да 6 гадзін раніцы, у выхадныя і святочныя дні) — 71 рубель за хвіліну без уліку ПДВ.

Звыш гэтага тарыфу спаганяецца таксама плата за мясцовыя размовы, якая складае для суб'ектаў гаспадарання 4,24 рубля, а для насельніцтва — 2,8 рубля за хвіліну.

СП «БелСел», у сваю чаргу, адмяніла з 1 кастрычніка плату за паступаючыя званкі для сваіх абанентаў.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### СТРЭЛЫ НА КАРЛА МАРКСА

**Прагучалі яны каля дзесяці гадзін вечара на сталічнай вуліцы ў панядзелак. Як высветлілася, супрацоўнікі крымінальнага вышуку і спецпадраздзялення хуткага рэагавання затрымлівалі злачынцу, які вышукваўся праваахоўнікамі за ўгон аўтамабіля.**

Непрацуючы жыхар Добруша, на след якога праваахоўнікі выйшлі ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, аказаў супраціўленне міліцыі і паспрабаваў знікнуць з месца здарэння. Аднак спроба аказалася няўдалай, ды і сам злачынца ў выніку сваёй неабачлівасці пацярпеў. Ацаніўшы абстаноўку, камандзір групы спецпадраздзялення і баец гэтай групы вымушаны былі прымяніць табельную зброю. Некалькі папераджальных стрэлаў не спынілі ўцекача, а таму праваахоўнікі зрабілі яшчэ і некалькі прыцэльных. Толькі раненне ў мяккія тканкі і спыніла злачынцу. Зараз ён, дарэчы, знаходзіцца ў бальніцы, ля яго палаты выстаўлены пост.

**Ігар ГРЫШЫН.**

### АПЕРАТЫЎНІКАМ ЎДАЛОСЯ ЗНАЙСЦІ ВЫКРАДЗЕНЫ ЦАРКОЎНЫ ЗВОН

**Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Жабінкаўскага РАУС знайшлі і вярнулі звон у найстарэйшы храм Брэсцкай вобласці — Свята-Нікіцкую царкву ў вёсцы Здзітава Жабінкаўскага раёна.**

40-кілаграмовы звон са званіцы царквы, пабудаванай у 1502 годзе, быў адліты ў 30-я гады XX стагоддзя. Ён абвяшчаў пра пачатак службы амаль 70 гадоў. У ноч з 28 на 29 верасня невядомыя выкралі звон. Аднак ужо ў мінулую нядзелю аператыўным работнікам РАУС удалося ўстанавіць асобы выкрадальнікаў. Імі аказаліся двое жыхароў Жабінкі, 17 і 19 гадоў. Маладыя людзі назваліся членамі секты сатаністаў і паяснілі, што звон ім быў патрэбны для выканання рытуальных абрадаў. Ці так гэта на самай справе, установіць следства.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## КУРСЫ ВАЛЮТ

| |
|---|
| 1470 |
| 1490 |

Курсы абмену наяўных валют на 2 кастрычніка па стану на 10.00

| Назва банка | USD Купля | USD Продаж | DM Купля | DM Продаж | RU Купля | RU Продаж | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белпрамбудбанк | 1470,00 | 1490,00 | 675,00 | 695,00 | 50,00 | 51,00 | (017) 284-81-10 |
| Славнефтебанк | 1470,00 | 1490,00 | 675,00 | 690,00 | 48,00 | 51,00 | (017) 216-23-90 |

Курсы замежных валют, устаноўленыя НБ РБ на 03.10.2001 г. (для б/н разлікаў)

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1480,00 | 1 нямецкая марка | 693,00 |
| 1 еўра | 1355,38 | 1 польскі злоты | 349,84 |
| 1 латвійскі лат | 2393,27 | 1 расійскі рубель | 50,25 |
| 1 літоўскі літ | 370,09 | 1 украінская грыўня | 277,48 |

Курсы замежных валют для безнаяўных разлікаў

| | USD | DM | 1000 BRB | EUR |
|---|---|---|---|---|
| Цэнтрабанк РФ (на 03.10) | 29,45 | 13,80 | 19,82 | 26,99 |

| | | |
|---|---|---|
| Курс у гандлёвых кампаніях (на 02.10.2001) | 1485 | 1565 |





## Рамонкавая князёўна

*Насця АТЦЭЦКАЯ з гар. пасёлка Мір.*

Анатоль КЛЯШЧУК

## Учора пачала работу трэцяя сесія Савета Рэспублікі

З гэтай падзеяй у сваім уступным слове парламентарыяў павіншаваў Старшыня Савета Рэспублікі Аляксандр Вайтовіч. Кіраўнік верхняй палаты беларускага парламента падзякаваў тым сенатарам, работнікам сакратарыята, якія актыўна садзейнічалі рабоце груп замежных назіральнікаў за выбарамі прэзідэнта.

У ходзе пасяджэння парламентарыі абралі сакратарыят і зацвердзілі склад падліковай камісіі трэцяй сесіі. Аляксандр Вайтовіч і старшыня Пастаяннай камісіі па эканоміцы, бюджэту і фінансах Таццяна Быкава выступілі са справаздачамі аб сваіх замежных камандзіроўках.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## Дэпутаты патрабуюць шчырай размовы

93 дэпутаты зарэгістраваліся падчас адкрыцця трэцяй сесіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу другога склікання, якая ўчора пачала сваю работу. Паводле Канстытуцыі амаль да канца снежня народныя абраннікі будуць займацца заканатворчай дзейнасцю.

Першае пленарнае пасяджэнне парламентарыяў наведалі віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Козік, старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, міністр замежных спраў Міхаіл Хвастоў, кіраўнік Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч, старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына. У Авальнай зале таксама было некалькі прадстаўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў, якія акрэдытаваны ў Беларусі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## Дзяржаўнае прадпрыемства працуе па-дзяржаўнаму

Не многія ведаюць, што на выпуск нашай газеты штодня патрабуецца каля паўтары тоны паперы. Шмат намаганняў трэба прыкласці, каб ад расійскіх вытворцаў яна трапіла ў друкарню. Дапамагае нам, газетчыкам, вырашыць гэту задачу дзяржаўнае прадпрыемства «Паліграфматэрыялы», якое днямі адзначыла сваё 25-годдзе.

Яго дырэктар Валерый Аляксеевіч Сівалобаў на пасадзе тры гады. За гэты час аб'ёмы пастаўкі паперы ў рэспубліку павялічыліся ўтрая і складаюць зараз больш як 3600 тон.

— Наш калектыў добра ўсведамляе адказнасць за выкананне даручэнняў прэзідэнта па забеспячэнню дзяржаўных газет і паліграфічных прадпрыемстваў неабходнымі матэрыяламі. У сучасных эканамічных умовах рабіць гэта вельмі складана. Большасць газет маюць перад намі вялікую запазычанасць, якая складае на сённяшні дзень каля 180 млн. рублёў. Робім закупкі паперы за кошт уласных сродкаў. Выручае і вялікі вопыт кадраў. Нашы вопытныя спецыялісты Галіна Жураўская, Леакадзія Карловіч, Валянціна Міхалевіч працуюць на прадпрыемстве не адзін дзесятак гадоў. Дзякуючы іх прафесійнаму майстэрству ўдалося захаваць устойлівую работу прадпрыемства і асвоіць новую наменклатуру — пастаўку паліграфічнага дроту, фатаграфічных і іншых матэрыялаў.

Сёння раённыя, ды і абласныя газеты і друкарні маюць магчымасць набыць усё неабходнае для выканання дзяржаўнай задачы — друкавання дзяржаўных сродкаў інфармацыі ў адным месцы — на «Паліграфматэрыялах». Гэта дадаткова эканоміць сродкі, дазваляе з упэўненасцю глядзець у будучыню.

— Зразумела, калі б мы мелі магчымасць атрымліваць сродкі на набыццё паперы, мінуючы рахункі газет, то гэта значна палепшыла б сітуацыю, — кажа Валерый Аляксеевіч. — Можна было б наладжваць і мацаваць сувязі з непасрэднымі вытворцамі ў Расіі, зніжаць кошт паперы для спажыўцоў. Пакуль жа мы такой магчымасці пазбаўлены і спадзяёмся, што гэта пытанне ўсё ж такі будзе вырашана. На агульную карысць.

З нагоды юбілею адзінае спецыялізаванае прадпрыемства ў рэспубліцы павіншавалі намеснік прэм'ер-міністра У. Дражын, міністр інфармацыі М. Падгайны, шматлікія арганізацыі і ўстановы галіны.

**Віктар ХУРСІК.**

***«Звязда» віншуе калектыў УП «Паліграфматэрыялы» з 25-годдзем з дня заснавання прадпрыемства. У многім дзякуючы высокаму прафесійнаму ўзроўню супрацоўнікаў «Паліграфматэрыялаў» наша газета ў поўнай меры забяспечваецца паперай, выходзіць рытмічна, без збояў.***

***Мы зычым калегам далейшых поспехаў у працы, дабрабыту, здароўя і шчасця іх сем'ям.***



## Судовая ўлада як прыклад законнасці і правапарадку ў краіне

**У нашай краіне надышоў той перыяд, калі неабходна істотна павышаць узровень і якасць судаводства.**

Аб гэтым 2 кастрычніка заявіў Аляксандр Лукашэнка, прадстаўляючы калектыву Вышэйшага гаспадарчага суда новага кіраўніка. У адпаведнасці з указам кіраўніка дзяржавы старшынёй ВГС стаў Віктар Камянкоў, які да гэтага займаў пасаду першага намесніка старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Беларусі.

Не сакрэт, што аўтарытэт судоў у грамадстве сёння невысокі, адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Таму трэба мяняць прывычную схему іх функцыянавання, падкрэсліў ён. У сувязі з гэтым прэзідэнт паставіў перад судовай уладай краіны шэраг задач. І важнейшая з іх — абгрунтаванасць, справядлівасць і законнасць судовых рашэнняў, якія выносяцца. Адсюль вынікае асаблівае патрабаванне да падбору і расстаноўкі кадраў суддзяў, лічыць кіраўнік дзяржавы. У сістэме судаводства павінны працаваць прафесіяналы высокага класа, а «асобам, схільным да найменшых маніпуляцый законамі, не месца ў судовым асяроддзі», адзначыў ён.

Прэзідэнт выказаў упэўненасць, што новы старшыня ВГС прадоўжыць практыку кантролю за выкананнем судовых рашэнняў, строгага захавання дзяржаўных інтарэсаў пры разглядзе спрэчак эканамічнага характару. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў таксама, што ВГС з'яўляецца і павінен ў далейшым заставацца магутным рычагом наведзення парадку ў сістэме дзейнасці суб'ектаў гаспадарання. Але, акрамя таго, яму варта займацца і ўдасканаленнем заканадаўства, ствараючы прававыя ўмовы для развіцця прыватнага бізнесу. Віктар Камянкоў падзякаваў кіраўніку дзяржавы за аказаны яму высокі давер. Ён заявіў, што пад яго кіраўніцтвам ВГС застанецца гарантам пабудовы ў Беларусі прававой дзяржавы, якая адпавядае ўсім міжнародным стандартам.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## *Выступленне Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. П. Вайтовіча на адкрыцці трэцяй сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальага сходу Рэспублікі Беларусь*

Паважаныя члены Савета Рэспублікі!

Паважаныя запрошаныя і журналісты!

У адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь сёння мы адкрываем трэцюю сесію Савета Рэспублікі другога склікання.

Зусім нядаўна другі раз прайшлі выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Народ выказаўся за прадказальнасць і стабільнасць. Дзейнасць членаў Савета Рэспублікі, яго Сакратарыята ў гэты перыяд была актыўнай і насычанай. Многія члены Савета Рэспублікі і супрацоўнікі Сакратарыята актыўна садзейнічалі рабоце дзесяці груп замежных наглядальнікаў за выбарамі, якія прадстаўлялі 21 дзяржаву і сем парламенцкіх арганізацый. Вялікі дзякуй гэтым членам Савета Рэспублікі і работнікам Сакратарыята. Больш падрабязная інфармацыя аб дзейнасці Савета Рэспублікі за час, які мінуў пасля закрыцця другой сесіі, раздадзена членам Савета Рэспублікі, таму дазвольце на ёй не спыняцца.

Паважаныя калегі! Адной з самых вострых праблем сусветнага супольніцтва на рубяжы тысячагоддзяў стала праблема тэрарызму. Тры тыдні таму ўвесь свет здрыгануўся ад небывалых па маштабу тэрарыстычных актаў у Злучаных Штатах Амерыкі. Урады і парламенты ўсіх краін павінны павялічыць свой уклад у барацьбу з тэрарыстычнай дзейнасцю. Неабходна выпрацоўка кансалідаванай пазіцыі парламентарыяў па гэтаму пытанню. У сувязі з актывізацыяй міжнароднага тэрарызму на ваш разгляд выносіцца праект Заявы Савета Рэспублікі.

Паважаныя члены Савета Рэспублікі!

Рэспубліка Беларусь — маладая суверэнная дзяржава. Да моманту атрымання незалежнасці ў рэспубліцы адсутнічаў вопыт, адсутнічалі традыцыі ў многіх сферах дзяржаўнай дзейнасці. І дзесяць гадоў — недастатковы тэрмін, каб напрацаваць гэты вопыт і гэтыя традыцыі. Для хутчэйшага руху наперад у гэтых сферах дзяржаўнай дзейнасці, для паспяховага вырашэння складаных эканамічных і сацыяльных праблем пераходнага перыяду, у якім мы жывём, надзённа неабходны кансалідаваная дзейнасць прэзідэнта, усіх галін улады і грамадства, кансалідацыя грамадства, максімальнае задзейнічанне ўсяго існуючага ў краіне інтэлектуальнага і гаспадарча-кіраўніцкага патэнцыялу, стварэнне ўмоў для развіцця эканамічнай актыўнасці суб'ектаў гаспадарання. На жаль, гісторыя не адводзіць нам працяглага перыяду для вырашэння задач і праблем, што стаяць перад намі. Дзейнічаць трэба хутка, але ўзважана і прадумана, каб не застацца на абочыне сусветнага развіцця, каб зрабіць магутны прарыў наперад.

Нацыянальнаму сходу трэба будзе заканадаўча забяспечыць хуткае, пазітыўнае развіццё краіны. Большасць краін свету мае шырокую заканадаўчую базу, напрацаваную дзесяцігоддзямі і стагоддзямі работы іх парламентаў. Нам жа трэба будзе за кароткі час зрабіць вельмі многае ў заканадаўчай сферы. Таму вельмі актуальным становіцца пытанне прыярытэтаў у заканадаўчай дзейнасці. Выпрацоўка такіх прыярытэтаў павінна ажыццяўляцца сумесна прадстаўнікамі прэзідэнта, урада, камісіямі палат парламента. Вызначаныя імі прыярытэты павінны строга выконвацца пры распрацоўцы і ўнясенні законапраектаў у парламент, а ў парламенце — пры чарговасці іх разгляду. Такім чынам, мы выходзім на пытанне аб неабходнасці навукова абгрунтаванай палітыкі ў заканатворчай дзейнасці ў краіне. Спадзяюся, што навукова-экспертны савет, створаны пры Савеце Рэспублікі, унясе свой канструктыўны і важкі ўклад ва ўдасканаленне заканатворчай палітыкі.

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***

## *Выступленне Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. А. Папова на адкрыцці трэцяй сесіі Палаты прадстаўнікоў другога склікання 2 кастрычніка 2001 года*

Паважаныя дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь!

Паважаныя члены Урада Рэспублікі Беларусь!

Прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса!

Запрошаныя і прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі!

Сёння, 2 кастрычніка 2001 года, пачынае сваю работу чарговая — трэцяя сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання.

Напярэдадні яе адкрыцця адбыліся выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Цяпер у краіне ідзе фарміраванне новага ўрада. Палаце прадстаўнікоў таксама трэба будзе ўнесці свой уклад у гэту справу — у адпаведнасці з артыкулам 97 Канстытуцыі даць згоду на назначэнне Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, неабходна будзе заслухаць яго даклад аб праграме дзейнасці ўрада і адобрыць яе з улікам таго, што ў ёй павінны быць адлюстраваны ўсе тыя напрамкі, якія былі вызначаны Праграмай сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 2001—2005 гады, прынятай 18 мая гэтага года на II Усебеларускім народным сходзе.

Гаворачы аб праведзеных прэзідэнцкіх выбарах, хацелася б адзначыць, што яны сталі для нас, як і для ўсёй нашай краіны, своеасаблівым экзаменам на палітычную сталасць. І мы яго паспяхова вытрымалі.

Дзякуючы занятай дэпутатамі актыўнай пазіцыі, роля Палаты прадстаўнікоў, як гэта і павінна быць у любой дэмакратычнай прававой дзяржаве, не была фармальнай і не абмяжавалася толькі назначэннем даты прэзідэнцкіх выбараў. Сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што кожны дэпутат, надзелены па свайму статусу ў адпаведнасці з дзеючым выбарчым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь правамі наглядальніка на выбарах, выкарыстаў гэтыя правы ў поўным аб'ёме. Тым самым былі забяспечаны дадатковыя гарантыі правядзення свабодных, адкрытых і дэмакратычных выбараў.

Акрамя таго, дэпутаты ўсямерна садзейнічалі рабоце міжнародных наглядальнікаў, сярод якіх было больш як 1200 замежных парламентарыяў, прадстаўнікоў розных грамадска-палітычных і міжнародных структур, сродкаў масавай інфармацыі. Прадстаўнікам дзесяткаў краін свету і такіх аўтарытэтных міжнародных структур, як Парламенцкая Асамблея Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе, Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ, Парламенцкая Асамблея Савета Еўропы, Асацыяцыя краін арганізатараў выбараў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе, Еўрапейскі Парламент, Парламенцкі Сход Саюза Беларусі і Расіі, Міжпарламенцкая Асамблея дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, Парламенцкая Асамблея Арганізацыі чарнаморскага эканамічнага супрацоўніцтва, была прадастаўлена магчымасць ажыццявіць нагляданне на тэрыторыі ўсёй рэспублікі і сфарміраваць аб'ектыўны, непрадузяты пункт гледжання па пытанню арганізацыі і правядзення выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вынікі ўдзелу дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у рабоце асенняй сесіі ПАСЕ паказалі, што прадэманстраваныя з нашага боку адкрытасць і гатоўнасць да канструктыўнага супрацоўніцтва не засталіся незаўважанымі. У прыватнасці, была прызнана памылковасць палітыкі ізаляцыі, якая праводзілася раней у адносінах да Беларусі, і неабходнасць выпрацоўкі новай палітыкі, якая забяспечвае яе інтэграцыю ў еўрапейскія структуры.

Адным з галоўных крокаў, якія павінны быць зроблены ўжо ў бліжэйшы час, з'яўляецца аднаўленне статусу «спецыяльна запрошанага» ў ПАСЕ для Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і яго юрыдычнае афармленне.

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***

## ЗАЯВА Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Сусветная цывілізацыя ў чарговы раз сутыкнулася са злом глабальнага маштабу.

Беларускі народ, які зведаў генацыд у гады другой сусветнай вайны, з абурэннем асуджае варварскія тэрарыстычныя акты, учыняемыя ў розных рэгіёнах планеты.

Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шчыра спачувае родным і блізкім пацярпеўшых ад жорсткіх тэрарыстычных акцый у Злучаных Штатах Амерыкі.

Асуджаючы тэрарызм у любых яго формах і праявах, мы выступаем за прыняцце рашучых мераў па яго выкараненню. Лічым, што пры правядзенні антытэрарыстычных аперацый неабходна дзейнічаць у рамках міжнароднага права, прымаючы ўсе магчымыя меры для таго, каб не пацярпела мірнае насельніцтва.

Савет Рэспублікі Нацыяльнага сходу Рэспублікі Беларусь заўсёды паслядоўна выступаў і выступае за сумесныя дзеянні супраць міжнароднага тэрарызму. У пачатку трэцяга тысячагоддзя мы ўжо заклікалі парламенты і ўрады ўсіх краін, міжнародныя, міжпарламенцкія, грамадскія арганізацыі аб'яднаць свае намаганні для агульнай барацьбы з гэтым злом.

Звяртаемся да парламентаў краін, на тэрыторыі якіх знаходзяць прытулак і апеку тэрарысты, функцыянуюць фінансавыя структуры, што падтрымліваюць іх, неадкладна прыняць рашучыя дзеянні па закрыццю гэтых структур і арышту іх рахункаў.

Любая дзяржава, любая міжнародная арганізацыя, якія падтрымліваюць тэрарыстаў, хаваюць іх ці садзейнічаюць ім, павінны быць асуджаны сусветнай супольнасцю.

Тэрарызму не павінна быць месца на нашай планеце!

## *Генадзь Навіцкі прадставіў міністра юстыцыі*

«Лічу сімвалічнай тую акалічнасць, што ў якасці новага кіраўніка ўрада першым з яго структур мне давялося наведаць міністэрства юстыцыі, — заявіў выконваючы абавязкі прэм'ер-міністра Беларусі Генадзь Навіцкі. — Гэта азначае, што ў сваёй дзейнасці ўрад мае намер строга выконваць заканадаўства краіны». 1 кастрычніка ён прадставіў калектыву новага кіраўніка. Ім стаў у адпаведнасці з указам прэзідэнта краіны Віктар Галаванаў.

## *ІНФАРМАЦЫЯ аб міжпарламенцкай і міжнароднай дзейнасці Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з 1 ліпеня па 1 кастрычніка 2001 г.*

Нягледзячы на парламенцкія канікулы, міжнародная і міжпарламенцкая дзейнасць Савета Рэспублікі ў гэты перыяд адзначалася асаблівай актыўнасцю і насычанасцю. Перш за ўсё гэта было звязана з правядзеннем выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і прыездам больш як 700 міжнародных назіральнікаў. Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь накіраваў запрашэнні ў 48 краін свету і восем міжпарламенцкіх арганізацый з прапановай прыняць удзел у назіранні за вырабамі. На запрашэнне адгукнуліся 190 парламентарыяў з 21 дзяржавы (краіны СНД, Італія, Ізраіль, Чэхія, Бельгія, Турцыя і інш.) і сямі міжнародных парламенцкіх арганізацый (ПС, МПА, МПК, ПАЧЭС, ПАСЕ, ПА ОБСЕ, Еўрапарламент).

У Савеце Рэспублікі было створана дзесяць груп па рабоце з 33 міжнароднымі назіральнікамі, у склад якіх уваходзілі члены Савета Рэспублікі і супрацоўнікі Сакратарыята. Адбылася агульная сустрэча назіральнікаў са Старшынёй Савета Рэспублікі. Усе міжнародныя назіральнікі, з якімі працавалі прадстаўнікі Савета Рэспублікі, у сваім заключэнні ўказалі, што выбары прайшлі ў дэмакратычнай, празрыстай і справядлівай абстаноўцы. Сярод членаў Савета Рэспублікі, якія актыўна працавалі з дэлегацыямі міжнародных назіральнікаў, трэба асобна выдзеліць Н. І. Андрэйчык, А. Н. Новікава Т. А., Арцюшыну, Н. В. Блахіну, Л. А. Каласкову, В. В. Крука, Э. М. Нарышкіна.

Улічваючы той факт, што ў Рэспубліку Беларусь прыехала так шмат міжнародных назіральнікаў, у абедзвюх палатах Нацыянальнага сходу адбыліся пасяджэнні рабочых груп па супрацоўніцтву з парламентамі замежных дзяржаў, на якіх абмяркоўваліся перспектывы супрацоўніцтва і распрацоўваліся планы міжпарламенцкіх кантактаў. У Савеце Рэспублікі адбыліся сустрэчы Старшыні Савета Рэспублікі з дэлегацыямі назіральнікаў з ПАСЕ, СНД, намеснікам Старшыні парламента Малдовы В. Мішыным, намеснікам Старшыні Нацыянальнага сходу Рэспублікі Арменія Г. Асланянам, членам дэлегацыі ПАСЕ, сенатарам Італьянскай Рэспублікі Ф. Безостры, дэлегацыямі Савета Федэрацыі, Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі і Саюзнай Скупшчыны Югаславіі. У час сустрэчы з членамі Савета Федэрацыі абмяркоўвалася пытанне падпісання Пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Саветам Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі і Саветам Рэспублікі. Цяпер ідзе дапрацоўка праекта гэтага Пагаднення.

У міжсесійны перыяд працягвалася планамерная работа па развіццю двухбаковых і шматбаковых кантактаў Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з усімі міжнароднымі інстытутамі. Аднак прыярытэтным напрамкам знешнепалітычнай дзейнасці Савета Рэспублікі было і застаецца паглыбленне супрацоўніцтва з Расійскай Федэрацыяй і краінамі СНД. Так, працягваецца паступовая трансфармацыя Мытнага саюза ў Еўразійскае эканамічнае супольніцтва. 14 верасня 2001 года адбылося пасяджэнне Міждзяржаўнага савета Еўразійскага эканамічнага супольніцтва, у якім прыняў удзел Старшыня Савета Рэспублікі А. П. Вайтовіч. На пасяджэнні Савета быў прыняты бюджэт гэтай арганізацыі на 2002 год.

У навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай дзесяцігоддзю ўтварэння СНД, якая адбылася ў Мінску, прымалі ўдзел члены Савета Рэспублікі. Старшыня Савета Рэспублікі А. П. Вайтовіч выступіў на ёй з прывітальным словам. На канферэнцыі падводзіліся вынікі дзесяцігадовай дзейнасці СНД. Было падкрэслена, што сярод усіх яе напрамкаў прыярытэтным павінна стаць эканамічнае супрацоўніцтва. Прайшоўшая канферэнцыя яшчэ раз пераканаўча прадэманстравала шырокія перспектывы для паступовага развіцця і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ўсіх краін, якія ўваходзяць у СНД.

Яшчэ адным пераканаўчым доказам неабходнасці паглыблення эканамічных адносінаў з дзяржавамі СНД служыць афіцыйны візіт дэлегацыі Савета Рэспублікі на чале са Старшынёй Савета Рэспублікі А. П. Вайтовічам, які адбыўся 10—13 ліпеня, у Кыргызскую Рэспубліку. У ходзе візіту адбыліся сустрэчы з Прэзідэнтам Кыргызскай Рэспублікі А. Акаевым, Старшынёй Сходу народных прадстаўнікоў Жогорку Кенеша А. Барубаевым, Прэм'ер-Міністрам Кыргызскай Рэспублікі К. Бакіевым, на якіх абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай галінах. Асноўнымі вынікамі гэтага візіту можна назваць дамоўленасць аб падтрымцы Беларусі ў еўрапейскіх парламенцкіх структурах, а таксама падпісанне Пратакола аб супрацоўніцтве верхніх палат парламентаў Беларусі і Кыргызстана.

Працягвалася актыўная работа беларускіх парламентарыяў і ў рамках Міжпарламенцкага Саюза на 106-й канферэнцыі, якая адбылася 9—15 верасня ў сталіцы Буркіна Фасо Уагадугу. Члены беларускай дэлегацыі выступілі ў агульных спрэчках па палітычнай сітуацыі ў свеце, па пытаннях абароны дзяцей і клопату пра іх як пра рухаючую сілу грамадства, а таксама па праблеме распаўсюджвання СНІДу. Значным дасягненнем беларускай дэлегацыі стала выбранне члена Савета Рэспублікі Я. Грыгаровіч у Каардынацыйны камітэт жанчын-парламентарыяў ад геапалітычнай групы «Еўразія».

Супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь з міжнароднымі фінансавымі інстытутамі, якое апошнім часам пашыраецца, знайшло сваё адлюстраванне ў арганізацыі семінара Міжнароднага валютнага фонду для дэпутатаў парламентаў Беларусі і Расіі, асноўнай задачай якога стала абмеркаванне рэформы фінансавага сектара і падаткова-бюджэтнай палітыкі ў краінах з пераходнай эканомікай. У рабоце семінара прыняла ўдзел старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па эканоміцы, бюджэту і фінансах Т. П. Быкава.

28 чэрвеня—2 ліпеня ў Грэцыі адбылася восьмая сесія Еўрапейскай Міжпарламенцкай асамблеі праваслаўя. У яе рабоце прыняла ўдзел дэлегацыя Нацыянальнага сходу, у склад якой уваходзіла член Савета Рэспублікі С. А. Акружная. На сесіі абмяркоўваліся праблемы праваслаўя ў еўрапейскім грамадстве і перспектывы ўваходжання праваслаўных краін у Еўрасаюз. Вынікам актыўнай работы С. Акружной стала выбранне яе членам камісіі ЕМАП па сацыяльных пытаннях.

За справаздачны перыяд у Савеце Рэспублікі былі прыняты дэлегацыі Нацыянальнага сходу Лаоскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі на чале са Старшынёй Нацыянальнага сходу Саманам Вінякетам і Сацыялістычнай Рэспублікі В'етнам на чале з намеснікам Старшыні Нацыянальнага сходу В'етнама Нгуен Фук Тханем. У час гэтых сустрэч абмяркоўваліся перспектывы далейшых парламенцкіх і гандлёва-эканамічных адносінаў.

Не менш шчыльны графік міжпарламенцкай работы намечаны і на час чарговай — трэцяй сесіі Савета Рэспублікі другога склікання.

## Учора пачала работу трэцяя сесія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

Пасля выступлення старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Мікалая Чаргінца сенатары зацвердзілі Заяву Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у сувязі з актывізацыяй міжнароднага тэрарызму.

Учора члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь сустрэліся з кіраўніцтвам Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта і дэпутатамі Мінскага гарадскога Савета дэпутатаў. Сенатараў падрабязна пазнаёмілі з эканамічным і сацыяльным жыццём беларускай сталіцы. Па завяршэнні сустрэчы прысутныя наведалі Рэспубліканскую гінекалагічную бальніцу і ліцэй Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Чарговае пасяджэнне Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адбудзецца 25 кастрычніка 2001 года.

**Сяргей ПРОТАС.**

## Дэпутаты патрабуюць шчырай размовы

***(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)***

Тым часам у журналістаў адкрыццё сесіі не выклікала вялікага ажыятажу. Напэўна таму, што інфармацыя аб выступленні на першым пленарным пасяджэнні прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі не пацвердзілася. Па-другое, у першы дзень парламентарыі не сталі вырашаць і кадравыя пытанні, якія пачалі назапашвацца ў сувязі з перастаноўкамі ва ўладных структурах пасля прэзідэнцкіх выбараў. Паводле папярэдняй інфармацыі, А. Лукашэнка наведае Палату прадстаўнікоў 10 кастрычніка. Тады ж дэпутатам, хутчэй за ўсё, будуць прадстаўлены і кандыдатуры кіраўніка і членаў урада, для прызначэння якіх, паводле Канстытуцыі, неабходна згода ніжняй палаты парламента. Такім чынам, адкрыццё сесіі мела адценне будзённасці. Старшыня Палаты прадстаўнікоў павіншаваў з прызначэннем міністрамі дэпутатаў Аляксандра Шпілеўскага і Міхаіла Баравога, а таксама папрасіў ушанаваць хвілінай маўчання памяць дэпутата Валянціна Кручкова, які памёр некалькі тыдняў таму. Дарэчы, дэпутаты ўшанавалі і памяць сваіх калег са Швейцарыі, якія днямі былі застрэлены ў будынку парламента псіхічна хворым злачынцам. В. Папоў паведаміў, што ў Швейцарыю будзе накіравана і пісьмовае спачуванне.

Зацвярджэнне парадку сесіі не абышлося без нечаканасцяў. Па ініцыятыве дэпутата Анатоля Красуцкага было ўзнята пытанне аб справаздачы кіраўніка палаты па рэалізацыі палажэнняў Закона «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў і члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу». Прычым А. Красуцкі прапанаваў заслухаць Вадзіма Папова на закрытым пасяджэнні палаты. Ініцыятыву падтрымалі Іван Пашкевіч і яшчэ некалькі народных абраннікаў.

Гэтае пытанне ўзнікла ў сувязі з тым, што да гэтага часу застаюцца нявырашанымі шмат пытанняў сацыяльных і бытавых умоў дзейнасці і пражывання дэпутатаў у беларускай сталіцы. Многіх парламентарыяў гэта вельмі не задавальняе, таму яны хочуць пачуць дакладныя тлумачэнні ад кіраўніка палаты. Але высветлілася, што праблема ўласнай неўладкаванасці хвалюе не проста многіх дэпутатаў, а літаральна ўвесь дэпутацкі корпус: за ўключэнне памянёнага пытання ў парадак дня сесіі прагаласавалі 94 чалавекі, «супраць» — толькі 2. Паводле ацэнак экспертаў, шчырая размова за зачыненымі дзвярыма будзе сур'ёзным іспытам...

Акрамя гэтага пытання ў парадак дня ўключаны яшчэ 65 пунктаў. Такім чынам, на гэтай сесіі парламентарыі разгледзяць 20 законапраектаў у першым чытанні, 24 — у другім. Яны плануюць у першым і другім чытаннях прыняць агульную частку Падаткавага кодэкса, у першым — спецыяльную часту гэтага дакумента, адобрыць у другім чытанні праекты Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчага кодэкса. Парламентарыям трэба будзе ратыфікаваць 5 міжнародных і міждзяржаўных пагадненняў, зацвердзіць 9 часовых Дэкрэтаў прэзідэнта, прыняць некалькі пастаноў Палаты прадстаўнікоў і вырашыць шэраг кадравых пытанняў. Да таго ж у канцы месяца яны заслухаюць справаздачу ўрада і атрымаюць адказы членаў Савета Міністраў на свае пытанні.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## *Выступленне Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. П. Вайтовіча*

***(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)***

На цяперашнім этапе галоўная задача — прававое забеспячэнне эфектыўнага развіцця эканамічных адносінаў, паколькі поспехі эканомікі — аснова павышэння дабрабыту людзей. Падатковае рэгуляванне, фінансава-крэдытная палітыка, забеспячэнне інвестыцыйнай дзейнасці, ліцэнзаванне, інавацыйная дзейнасць, развіццё малога і сярэдняга прадпрымальніцтва і іншыя праблемы з'яўляюцца пытаннямі першараднай значнасці ў эканамічным блоку заканатворчай работы Нацыянальнага сходу.

У сацыяльна-культурным блоку многія пытанні патрабуюць заканадаўчага забеспячэння. Прыярытэты распрацоўкі і прыняцця заканадаўчых актаў у гэтым блоку таксама патрабуюць вызначэння. Хацелася б падкрэсліць тут актуальнасць развіцця сферы культуры з тым, каб павышалася культура ў быце, у вытворчых адносінах, а праз гэта паляпшаўся псіхалагічны клімат у грамадстве, выхоўвалася любоў да Бацькаўшчыны.

У гэтай сувязі хацеў бы закрануць пытанне аб мовах у заканатворчай дзейнасці. Як вы ведаеце, у адпаведнасці з артыкулам 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь «дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская мовы». Аднак у заканатворчай дзейнасці склалася практыка, калі амаль усе заканадаўчыя акты прымаюцца толькі на рускай мове. У іншых краінах свету, дзе існуе двухмоўе, законы прымаюцца адразу на дзвюх дзяржаўных мовах. Гэту практыку пара ўвесці і нам, што будзе адпавядаць Канстытуцыі краіны, не будзе абмяжоўваць правы ні беларуска-, ні рускамоўных грамадзян.

Прыярытэтнымі напрамкамі міжнароднага супрацоўніцтва з'яўляюцца расійска-беларуская інтэграцыя, развіццё і паглыбленне інтэграцыйных працэсаў у рамках ЕўрАзЭС і СНД, павышэнне эфектыўнасці супрацоўніцтва з еўрапейскімі парламенцкімі структурамі. Надзейнай асновай заканадаўчай дзейнасці ў рамках Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі павінен стаць Канстытуцыйны Акт Саюзнай дзяржавы, які вызначыць упарадкаванне Саюза, яго інстытуты, іх функцыі і правы, што робіць яго дапрацоўку і прыняцце выключна актуальным. Паглыбленне інтэграцыйных працэсаў у рамках ЕўрАзЭС і СНД таксама ставіць сур'ёзныя задачы перад заканадаўцамі. Для нармалізацыі нашых адносінаў з еўрапейскімі парламенцкімі структурамі абодвум бакам неабходна прайсці сваю частку шляху.

Паважаныя калегі!

Па некаторых пытаннях патрабуецца дадатковая прававая рэгламентацыя дзейнасці Савета Рэспублікі. Так, у адпаведнасці з пунктамі 5, 6 артыкула 98 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь Савет Рэспублікі адмяняе рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, якія не адпавядаюць заканадаўству, прымае пастанову аб роспуску мясцовага Савета дэпутатаў у выпадку сістэматычнага або грубага парушэння ім патрабаванняў заканадаўства і ў іншых выпадках, прадугледжаных законам. Аднак ні ў Канстытуцыі, ні ў заканадаўстве аб мясцовых Саветах дэпутатаў не раскрываюцца паняцці «сістэматычнае», «грубае» парушэнне патрабаванняў заканадаўства, таму неабходна заканадаўча вызначыць парадак і ўмовы рэалізацыі гэтых паўнамоцтваў Саветам Рэспублікі.

Прыведзены прыклад сведчыць аб тым, што парламент краіны не ў поўнай меры вызначыў выкарыстанне паўнамоцтваў, якія прадастаўляюцца яму Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Рэалізацыя парламентам паўнамоцтваў, якія прадастаўляюцца яму Канстытуцыяй краіны, — гэта першачарговая задача па пашырэнню паўнамоцтваў парламента.

Моцны, адказны парламент, які стварае выверaныя законы, будуе планы сваёй работы з улікам значнасці заканадаўчых актаў для краіны, — адзін з асноўных дзяржаўных інстытутаў, які ў вялікай ступені нясе адказнасць за стан грамадства.

Паважаныя члены Савета Рэспублікі!

Жадаю вам актыўнай, плённай і паспяховай работы на гэтай сесіі.

Дзякуй за ўвагу.

## *Выступленне Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь В. А. Папова*

***(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.)***

Менавіта такі пункт гледжання выказаў кіраўнік дэлегацыі ПАСЕ па назіранню за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі пан С.Горыс у сваім выступленні са справаздачай аб выніках праведзенага назірання. Станоўчае вырашэнне гэтага пытання дасць магчымасць нам актыўна ўключыцца ў работу гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі ў мэтах сумеснага пошуку шляхоў вырашэння асноўных праблем сучаснага еўрапейскага грамадства.

Разам з тым павінна быць адноўлена паўнапраўнае членства Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у Парламенцкай Асамблеі АБСЕ. Выказваем спадзяванне, што такое рашэнне будзе прынята на пасяджэнні Пастаяннага Камітэта Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, да ўдзелу ў якім рыхтуецца парламенцкая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь.

Мы глыбока перакананыя, што гэта прынясе ўзаемную карысць. Еўропа, якая аб'ядноўваецца, — наш агульны Дом, а Рэспубліка Беларусь — яго неад'емная складаная частка. Упэўнены, што чым хутчэй адбудзецца пераход ад дэкларацыі намераў аказаць садзейнічанне інтэграцыі нашай краіны ў еўрапейскія структуры да іх практычнай рэалізацыі, тым хутчэй і эфектыўней будуць дасягнуты тыя мэты, дзеля якіх гэты Дом ствараецца.

Мінулы міжсесійны перыяд, у адрозненне ад ранейшых гадоў, быў для дэпутатаў не «канікулярным», а напоўненым напружанай работай па падрыхтоўцы законапраектаў. У пастаянных камісіях старанна аналізаваліся заўвагі і прапановы, выказаныя ў працэсе абмеркавання законапраектаў экспертамі, вучонымі і спецыялістамі. Прынцыповыя пытанні абмяркоўваліся і на выязных пасяджэннях пастаянных камісій у працоўных калектывах, а таксама ў мясцовых распарадчых і выканаўчых органах.

У выніку карпатлівай работы падрыхтавана да разгляду 27 законапраектаў, падрыхтоўка яшчэ 38 знаходзіцца ў стадыі завяршэння.Таму Савет Палаты рэкамендуе сёння ўключыць у парадак дня сесіі 65 пытанняў.

У апошні час паступіла дадаткова 27 праектаў законаў. Пастаянныя камісіі пачалі ўжо работу над імі. Па меры іх гатоўнасці будзем уключаць гэтыя законапраекты ў парадак дня дадаткова, у адпаведнасці з практыкай, якая склалася ў Палаце прадстаўнікоў. Плануючы сваю работу на працягу сесіі, неабходна таксама ўлічыць, што да снежня паступіць яшчэ 20 праектаў законаў. Гэта прадугледжана і планам заканатворчай работы, і рашэннямі, прынятымі на дзяржаўным узроўні.

Акрамя таго, у мэтах выканання графіка разгляду законапраектаў хачу звярнуць увагу дэпутатаў на неабходнасць аператыўнага пераўзгаднення законапраектаў, якія былі раней узгоднены з органамі дзяржаўнага кіравання, рэарганізаванымі ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 516.

Законапраекты, якія трэба будзе разгледзець на трэцяй сесіі Палаты прадстаўнікоў, датычацца такіх ключавых сфер грамадскага жыцця, як эканоміка, унутраная і знешняя палітыка, бяспека, сацыяльная сфера, экалогія і ахова здароўя, навука і адукацыя. У пэўным сэнсе яны паслужаць рычагамі, што забяспечваюць рэалізацыю тых задач, якія былі вызначаны як прыярытэтныя ў перадвыбарнай Праграме Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: забеспячэнне харчовай бяспекі, росту экспарту, будаўніцтва жылля, развіццё навукі, адукацыі, сістэмы аховы здароўя, інвестыцыйнай і інавацыйнай дзейнасці.

У ходзе сесіі асаблівую ўвагу трэба будзе ўдзяліць кадыфікацыі і сістэматызацыі заканадаўства. У прыватнасці, нас чакае сур'ёзная работа над Падатковым кодэксам Рэспублікі Беларусь. З улікам яго складанасці прынята рашэнне разглядаць яго па частках. Паколькі ўвядзення ў дзеянне Падатковага кодэкса з нецярпеннем чакаюць усе суб'екты гаспадарання Беларусі, неабходна зрабіць усё для таго, каб на гэтай сесіі разгледзець праект Часткі першай (Агульнай часткі) Падатковага кодэкса ў першым і другім чытанні, а Спецыяльную частку — у першым чытанні, каб ужо вясной 2002 года завяршыць работу над Кодэксам.

Вялікая работа таксама чакаецца па завяршэнню падрыхтоўкі праектаў Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях і Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія на гэтай сесіі неабходна разгледзець і прыняць у другім чытанні. На сённяшні дзень паступіла больш як 500 заўваг і прапаноў па Кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях. Больш як палова з іх ужо разгледжана. Улічваючы, што праект Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях разглядаецца разам з праектам Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, неабходна актывізаваць работу ў гэтым напрамку і завяршыць яе ўжо ў бліжэйшы час.

Практыка прымянення прынятых раней кодэксаў, далейшае развіццё праваадносінаў паказалі на неабходнасць некаторай карэкціроўкі і дапаўнення іх асобных нормаў. Так, на гэтай сесіі будуць разглядацца праекты законаў Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Грамадзянскі і Мытны кодэксы Рэспублікі Беларусь.

Прыняцце Жыллёвага кодэкса ў новай рэдакцыі прызначана забяспечыць рэалізацыю асноўных напрамкаў дзяржаўнай жыллёвай палітыкі, урэгуляванне праваадносінаў, звязаных з развіццём рынку жылля, пераводам жыллёвай сферы як галіны эканомікі ў рэжым бясстратнага функцыянавання пры забеспячэнні сацыяльнай абароны пэўных груп насельніцтва.

У рамках рэалізацыі прынятай Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь, якая вызначыла асноўныя напрамкі развіцця нашай эканомікі, трэба будзе прыняць шэраг законапраектаў, якія рэгулююць праваадносіны ў такіх галінах, як ліцэнзаванне, нетарыфнае рэгуляванне, прыватызацыя, валютнае рэгуляванне, нерухомая маёмасць. У сваю чаргу гэта дасць магчымасць зрабіць яшчэ адзін крок у вырашэнні задачы па прывядзенню заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з патрабаваннямі Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Далучэнне да гэтай арганізацыі разглядаецца як важнейшы крок у напрамку інтэграцыі нашай краіны ў сусветную эканоміку, які дасць Рэспубліцы Беларусь неабходны інструментарый для абароны і прасоўвання сваіх інтарэсаў у рамках сістэмы міжнароднага гандлю.

Разам з тым гэты ўклад мог бы быць больш істотным, калі б міністэрствы і ведамствы Рэспублікі Беларусь, якія адказваюць за распрацоўку адпаведных законапраектаў, працавалі з большай аддачай. Згодна з інфармацыяй Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, якая прагучала на папярэдняй сесіі, на сённяшні дзень у Палату прадстаўнікоў павінна быць унесена каля 14 законапраектаў, накіраваных на прывядзенне нацыянальнага заканадаўства ў адпаведнасць з патрабаваннямі СГА, а паступіла толькі 4. Да гэтага часу не ўзгоднены нават пералік законаў, якія павінны быць прыняты з гэтай мэтай. Выказваем надзею, што пасля завяршэння дапрацоўкі Плана нарматворчых работ па СГА, да якой далучаны і дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, работа ў гэтым напрамку пойдзе больш актыўна.

Выключна важнае значэнне на сучасным этапе мае далейшае заканадаўчае ўрэгуляванне працэсаў, што адбываюцца ў аграпрамысловым комплексе.

Праграма ўдасканалення аграпрамысловага комплексу Рэспублікі Беларусь на 5 гадоў, адобраная кіраўніком дзяржавы, прадугледжвае правядзенне радыкальных пераўтварэнняў усіх бакоў дзейнасці суб'ектаў гаспадарання — эканамічнага, тэхніка-тэхналагічнага і арганізацыйнага. Паспяховая рэалізацыя гэтай Праграмы ў многім абумоўліваецца тым, наколькі гэтыя пераўтварэнні будуць падмацаваны адпаведнай заканадаўчай базай.

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што ў Палату прадстаўнікоў на сённяшні дзень не паступіла ніводнага законапраекта, прызначанага рэгуляваць гэтыя працэсы. Урад павінен удзяліць вырашэнню гэтай праблемы больш сур'ёзную ўвагу. У той жа час лічу мэтазгодным, каб Пастаянная камісія па аграрных пытаннях заняла больш прынцыповую і актыўную пазіцыю па гэтаму пытанню. Ды і ўсім дэпутатам, улічваючы аб'ектыўную важнасць і значнасць паляпшэння стану галіны сельскай гаспадаркі, аб чым было сказана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам на адкрыцці рэспубліканскага фестывалю-кірмашу «Дажынкі-2001», трэба актыўней уключыцца ў рэалізацыю палажэнняў названай Праграмы ўласцівымі метадамі работы. У прыватнасці, было б дарэчы на гэтай сесіі правесці парламенцкія слуханні па праблемах вёскі і шляхах іх вырашэння.

Самую сур'ёзную ўвагу нам неабходна ўдзяліць удасканаленню заканадаўства ў сацыяльнай сферы, у сферы забеспячэння правоў і свабод грамадзян. Першачарговым у рэфармаванні пенсійнай сістэмы павінен стаць Закон «Аб асновах пенсійнай сістэмы ў Рэспубліцы Беларусь», праект якога трэба будзе разгледзець і прыняць на гэтай сесіі. Акрамя таго, нам неабходна прыняць шэраг законаў, якія рэгулююць пытанні аплаты працы, занятасці насельніцтва, забеспячэння гарантыі банкаўскіх укладаў фізічных асоб.

Адным з напрамкаў дзяржаўнай палітыкі рэспублікі з'яўляецца далейшае развіццё і ўдасканаленне адукацыі як фундаменту, што вызначае ўзровень развіцця эканомікі, навукі і культуры. Для гэтага неабходна прыняць новую рэдакцыю Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», каб у далейшым на яго аснове распрацаваць і прыняць шэраг законаў, якія рэгулююць тыя або іншыя бакі адукацыйнага працэсу.

Сур'ёзную ўвагу трэба ўдзяліць вырашэнню такіх пытанняў, як дэмаграфічная бяспека, ахова навакольнага асяроддзя і развіццё сістэмы аховы здароўя. Для ўдасканалення заканадаўчага рэгулявання грамадскіх адносінаў па гэтаму напрамку неабходна прыняць цэлы блок законапраектаў.

Не трэба забываць аб тым, што ўжо ў бліжэйшы час будуць унесены на разгляд праекты законаў «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 2002 год» і «Аб бюджэце Саюзнай дзяржавы на 2002 год». Разгляд і прыняцце гэтых законапраектаў запатрабуюць ад нас, дэпутатаў, глыбокага аналізу і высокай адказнасці.

Акрамя таго, трэба будзе разгледзець праекты законаў «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь», якія выклікаюць жывую цікавасць у грамадстве, а таксама праект Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь», — прызначаны вырашыць асобныя пытанні, якія датычацца заканадаўчага працэсу, у прыватнасці, пытанні ўзгаднення праектаў законаў.

На гэтай сесіі нам неабходна завяршыць работу над праектам Пастановы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Рэгламент Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь». Больш як 200 прапаноў і заўваг, якія паступілі ў Пастаянную камісію па дзяржаўнаму будаўніцтву, мясцоваму самакіраванню і рэгламенту, павінны быць аператыўна разгледжаны і ўлічаны, каб ужо ў бліжэйшы час гэты дакумент быў прыняты.

На асенняй сесіі парламентарыям трэба будзе разгледзець шэраг часовых дэкрэтаў, якія датычацца розных галін палітычнага і эканамічнага жыцця краіны, выдадзеных Кіраўніком нашай дзяржавы і прадстаўленых у Палату прадстаўнікоў.

Важнае месца ў рабоце трэцяй сесіі адводзіцца заканадаўчаму рэгуляванню пытанняў нацыянальнай бяспекі. Прыярытэтнай задачай для нашай рэспублікі з'яўляецца абарона дзяржаўнага суверэнітэту і палітычнай незалежнасці, забеспячэнне тэрытарыяльнай цэласнасці і непарушнасці граніц дзяржавы. Сістэмны аналіз міжнароднай ваенна-палітычнай абстаноўкі і прагноз яе развіцця з улікам патрэбнасцяў і рэальных магчымасцяў па забеспячэнню ваеннай бяспекі рэспублікі павінны знайсці адлюстраванне ў шэрагу законапраектаў.

На сённяшні дзень падрыхтаваны ўжо да разгляду праект Закона «Аб ваеннай дактрыне Рэспублікі Беларусь», які трэба будзе прыняць на бягучай сесіі. У бліжэйшы час у Палату прадстаўнікоў будуць таксама ўнесены праекты законаў Рэспублікі Беларусь «Аб ваенным становішчы», «Аб надзвычайным становішчы», «Аб альтэрнатыўнай службе», «Аб дзяржаўных праграмах узбраення і абаронным заказе», «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб абароне» (новая рэдакцыя), «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь» (новая рэдакцыя), «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь» «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» (новая рэдакцыя).

Прыняцце гэтых законаў закладзе заканадаўчую аснову для рэалізацыі практычных мерапрыемстваў ваеннага будаўніцтва ў нашай краіне.

Неабходныя прававыя ўмовы для эфектыўнага вырашэння тых праблем у сферы бяспекі і абароны правапарадку, з якімі сутыкнулася міжнароднае супольніцтва ў пачатку XXI стагоддзя, створыць прыняцце праектаў законаў «Аб забеспячэнні эканамічнай бяспекі», «Аб інфармацыйнай бяспецы», «Аб барацьбе з тэрарызмам», «Аб барацьбе з карупцыяй», «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь» (новая рэдакцыя), «Аб міліцыі» (новая рэдакцыя), уключаных у план падрыхтоўкі законапраектаў на 2001 год.

У мэтах пашырэння нарматыўнай прававой базы, якая забяспечвае развіццё адносінаў Беларусі з іншымі дзяржавамі, трэба ўдзяліць вялікую ўвагу ратыфікацыі міжнародных дагавораў. На сённяшні дзень падрыхтаваны для разгляду праекты законаў Рэспублікі Беларусь аб ратыфікацыі міжнародных пагадненняў, якія датычацца двухбаковага супрацоўніцтва, ліцэнзавання імпарту дзяржавамі — удзельніцамі Пагаднення аб стварэнні зоны свабоднага гандлю, рэгулявання двухбаковых адносінаў у галіне падаткаабкладання і міжнародных разлікаў, стварэння міждзяржаўных сістэм транспарціроўкі нафты і газу. Апошняе асабліва важна, паколькі ў нашай краіне створана і функцыянуе развітая сістэма нафта- і газаправодаў.

Улічваючы неабходнасць забеспячэння своечасовай ратыфікацыі міжнародных дагавораў, якія садзейнічаюць умацаванню становішча Беларусі на міжнароднай арэне, развіццю яе гандлёва-эканамічных сувязяў і палітычных адносінаў з іншымі краінамі, хацелася б звярнуцца да органаў дзяржаўнай улады, якія заключаюць міжнародныя пагадненні, што патрабуюць выканання вышэйназванай унутрыдзяржаўнай працэдуры, з просьбай не зацягваць працэс іх унясення на разгляд у Палату прадстаўнікоў. Дзякуючы праведзенай у гэтым напрамку рабоце ўдалося дабіцца пэўнага пазітыўнага змянення ў сітуацыі, што склалася раней. У прыватнасці, за мінулы перыяд колькасць ратыфікаваных дагавораў, заключаных у рамках СНД у 1991—2000 гадах, дасягнула амаль 90 працэнтаў. Гэта добры паказчык, але ён можа быць і лепшым, калі належным чынам будзе наладжана работа міністэрстваў і ведамстваў, якія задзейнічаны ў гэтым працэсе.

Разам з разглядам вышэйназваных законапраектаў трэба будзе правесці сур'ёзную работу па рэалізацыі тых задач, якія былі пастаўлены перад дэпутатамі 23 мая 2001 года па выніках абмеркавання пытанняў, што датычацца развіцця міжнароднай дзейнасці Палаты прадстаўнікоў. Размова ідзе перш за ўсё аб умацаванні інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы, Еўразійскай эканамічнай садружнасці, Садружнасці Незалежных Дзяржаў, аб развіцці двухбаковага і шматбаковага міжпарламенцкага супрацоўніцтва, а таксама аб аднаўленні для беларускага парламента статусу «спецыяльна запрошанага» ў ПАСЕ і паўнамоцтваў Нацыянальнага сходу ў Парламенцкай Асамблеі АБСЕ.

Як ужо адзначалася ў пачатку выступлення, у вырашэнні апошніх двух пытанняў намеціліся некаторыя пазітыўныя зрухі. Цяпер трэба зрабіць усё неабходнае для таго, каб яны атрымалі сваё развіццё і ўжо ў бліжэйшы час былі вырашаны канчаткова.

Гаворачы аб умацаванні інтэграцыі ў рамках Саюзнай дзяржавы, хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу на неабходнасць прадаўжэння актыўнай дзейнасці па стварэнню Саюзнага парламента.

Дзякуючы планамернай рабоце, якая праводзіцца ў гэтым напрамку ў цеснай каардынацыі з нашымі расійскімі калегамі, цяпер практычна завершана ўзгадненне папраўак да праекта Закона «Аб выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Парламента Саюзнай дзяржавы першага склікання ад Рэспублікі Беларусь». Такім чынам, у нас ёсць усе перадумовы для таго, каб прыняць яго ў другім чытанні ўжо ў лістападзе-снежні месяцы гэтага года, — адначасова з прыняццем Дзяржаўнай Думай Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі адэкватнага закона. Такім чынам, ужо да канца года будзе створана належная юрыдычная база для выбрання дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Парламента Саюзнай дзяржавы. Аднак перш чым гэта адбудзецца, неабходна, каб быў выпрацаваны і вынесены на рэферэндум Канстытуцыйны Акт, прызначаны вызначыць дзяржаўнае ўпарадкаванне Саюзнай дзяржавы і яе прававую сістэму.

Цяпер экспертна-аналітычны савет па прававому забеспячэнню дзейнасці прадстаўнікоў Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі ў сумеснай рабочай групе па падрыхтоўцы праекта Канстытуцыйнага Акта завяршае работу над гэтым дакументам. Па меры дапрацоўкі ён будзе накіраваны ў якасці рэкамендацыйнага дакумента ў Савет Міністраў Саюзнай дзяржавы і ў вышэйназваную сумесную рабочую групу, у склад якой уключаны і члены Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Яшчэ адно пытанне, якое неабходна вырашыць у рамках стварэння парламента Саюзнай дзяржавы, — гэта падрыхтоўка нарматыўнага прававога акта, які вызначае механізм фарміравання Палаты Саюза парламента Саюзнай дзяржавы. На савеце Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі, праведзеным у г. Маскве 24 верасня, прынята рашэнне ў мэтах легітымізацыі Палаты Саюза звярнуцца да прэзідэнтаў Расіі і Беларусі з прапановай разгледзець і падтрымаць на чарговым пасяджэнні Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай дзяржавы прапанову Савета Парламенцкага Сходу аб фарміраванні Палаты Саюза праз прыняцце закона парламентамі Расіі і Беларусі.

Як відаць з вышэйсказанага, у Палаты прадстаўнікоў наперадзе сур'ёзная работа па рэалізацыі задач, ускладзеных на яе ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Мы дакладна ўсведамляем важнасць і злабадзённасць гэтых задач і прыкладзем усе свае сілы для таго, каб дабіцца іх эфектыўнага вырашэння.

Паважаныя дэпутаты!

У адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь трэцюю сесію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь другога склікання аб'яўляю адкрытай.

# На складах «Чэўляра» прадукцыя не ўпіраецца ў столь...

**По чым можна меркаваць пра запатрабаванасць прадукцыі таго або іншага прадпрыемства?**

**На сумесным беларуска-славенскім абутковым прадпрыемстве «Чэўляр» адносна гэтага гавораць так: калі на складах нейкага прадпрыемства прадукцыя ўпіраецца ў столь — значыць, у яго ёсць пэўныя праблемы...**

**Зразумела ўжо, што менавіта для самога «Чэўляра» падобнай праблемы не існуе: яго прадукцыя не затрымліваецца на складах, як, дарэчы, не затрымліваецца і ў магазінах, г. зн. яна даволі хутка знаходзіць свайго пакупніка. Чым бярэ «Чэўляр»?**

**Пра гэта і адпаведныя аспекты яго гаспадарчай палітыкі — у гутарцы, якая друкуецца. Прадпрыемства прадстаўляе яго тэхнічны дырэктар Віталій ПАНАДА.**




**— Віталій Станіслававіч, такім чынам, чым бярэ «Чэўляр»?**

— На прадпрыемстве ўжо адразу пасля яго заснавання, а заснавана яно адносна нядаўна — у 1996 годзе, была пастаўлена мэта: стаць лідэрамі ў вытворчасці сучаснага высакаякаснага канкурэнтаздольнага абутку і, у прыватнасці, — дзіцячага, на якім мы пераважна і спецыялізуемся (выпускаем таксама крыху мужчынскага абутку і яшчэ ў меншай колькасці жаночага). І гэта нам увогуле ўдаецца. Марка «Чэўляр» ужо добра вядомая ў нашай рэспубліцы, ведаюць яе і за мяжой, пакупнікі ахвотна бяруць нашу прадукцыю. Мы адкрылі свае фірменныя секцыі ў ГУМе, ЦУМе, гандлёвым доме «На Нямізе», універмагу «Беларусь», у Цэнтры Абутку, фірменным магазіне «Прамень». Увогуле мы даволі ўдала занялі сваю нішу ў вытворчасці абутку, ці дакладней — у вытворчасці абутку больш высокага класа — у параўнанні з тым, які выпускаюць нашы іншыя фабрыкі; нас адразу добра прыняў пакупнік...



Аднак чым канкрэтна бярэ «Чэўляр»? Перш за ўсё, асартыментная палітыка прадпрыемства будуецца на наступным няўхільным правіле: няхай выпускаемы абутак будзе і высакаякасным, і мадэльным, і канкурэнтаздольным, тым не менш, ён не павінен тыражыравацца шматтысячнымі партыямі. Мы зыходзім з таго, што толькі ў такім выпадку кожная пара знойдзе свайго пакупніка. Гэтага правіла мы прытрымліваліся ўвесь час, прытрымліваемся і цяпер. Можа, з-за гэтага часам з'яўляюцца праблемы фінансавага характару (распрацоўка новых мадэляў, рэгулярная змена асартыменту (а за год у нас праходзіць каля 300 мадэляў), зразумела, патрабуюць грошай), затое па сутнасці няма праблем маркетынгавага плана.

Далей. Каб пашыць добры абутак, трэба мець добрыя, высакаякасныя матэрыялы. Мы шыем абутак пераважна з натуральнай скуры; многія матэрыялы, камплектуючыя (напрыклад, калодкі, падэшвы) прывозім у асноўным з Італіі, якая, як вядома, у плане пашыву высакаякаснага мадэльнага абутку з'яўляецца вядучай у свеце.

Вельмі важна таксама прапанаваць гандлю, пакупніку менавіта сучасны мадэльны абутак. Прайшоў час, калі той жа пакупнік, нярэдка ратуючы свае грошы ад інфляцыі, браў практычна ўсё, што з'яўлялася ў магазіне. Словам, цяпер ён не шукае ўжо абутак пэўнага памеру, а пэўнай мадэлі, пэўнага фасону... На фабрыцы ёсць свой аддзел мадэліравання — праз яго праходзіць амаль увесь асартымент. Частку асартыменту фарміруем разам з італьянскімі партнёрамі, з якімі мы наладзілі добрыя сувязі, прычым фарміруем, як правіла, у тым выпадку, калі ёсць экспартны заказ...



**— Няйначай, супрацоўніцтва з італьянцамі з'яўляецца для вас добрай школай. Ці прыносіць гэта разам з тым чыста эканамічную выгаду? Раскажыце пра гэта супрацоўніцтва больш падрабязна.**

— Схематычна выглядае ўсё так: мы атрымліваем ад іх заказ на выраб пэўных узораў абутку (у гэты заказ уваходзяць як іх мадэлі, так і нашы, прычым іх цікавасць да нашых мадэляў апошнім часам узрасла). Яны прапануюць гэтыя мадэлі на міжнародных выстаўках у Мілане, Дзюсельдорфе і іншых заходнееўрапейскіх гарадах. Адпаведна, фарміруюць для нас ужо чыста вытворчы заказ...

Што датычыць эканамічнай выгады ад гэтага супрацоўніцтва, то мець яе, безумоўна, важна, але, можа, яшчэ важней зусім іншае. Скажам, калі на прадпрыемстве кажуць, што, маўляў, мы экспартуем у Італію, Францыю, — чым гэта можна змерыць? Гэта па-першае. Па-другое, людзі міжволі прывыкаюць да тых нормаў і патрабаванняў адносна якасці, прыёмаў работы, якімі абстаўляюцца падобныя заказы. Па-трэцяе, гэта шлях да больш маштабнага экспарту, да прамых кантактаў з буйнымі кампаніямі-пакупнікамі. Іх на Захадзе недзе з дзесятак, яны добра ведаюць абутковы рынак, і звычайна міма іх увагі не праходзіць новае імя, якое з'яўляецца на гэтым рынку. І, па-чацвёртае, і гэта, напэўна, галоўнае: мы ў выніку атрымліваем доступ да таго асартыменту, якім на дадзены момант цікавяцца ў Еўропе, адпаведна, прапануем яго айчыннаму пакупніку. Падкрэслю: ужо адразу, сёння ж прапануем тое, што носіць Еўропа.



Зразумела, замежныя партнёры таксама шукаюць ад гэтага супрацоўніцтва пэўную выгаду. Ім цікава знайсці, заказаць еўрапейскі прадукт па нізкай цане і прадаць яго па еўрапейскай жа цане. Але гэта не азначае таго, што нас у дадзеным выпадку, скажам так, трымаюць за трэцюю краіну. Наш прадукт далёка не танны, асабліва ў параўнанні з іншым адпаведным прадуктам. Тым не менш, заказваюць у нас. Ці, дакладней, заказваюць у нас прадукт больш высокага класа, які, адпаведна, значна больш і каштуе.

**— Цана абутку, і, у прыватнасці, менавіта дзіцячага, хвалюе і айчыннага пакупніка...**

— Зразумела, кожнаму хацелася б купіць нешта (у тым ліку і той жа абутак) як мага танней. Але трэба разумець і іншае: высакаякасны прадукт ніяк не можа быць танным. З чаго складваецца цана нашага абутку, можа, і сапраўды, не такога ўжо і таннага для таго або іншага пакупніка? З кошту высакаякаснага скуранога матэрыялу, кошту якаснай падэшвы і г.д. Ужо адзначалася, што «Чэўляр» пастаянна скіраваны на выпуск новага і моднага абутку — за гэта таксама трэба плаціць. Словам, варта памятаць: гэта абутак больш высокага класа, чым абутак нашых іншых фабрык, якія могуць прапанаваць яго па меншай цане... Разам з тым на прадпрыемстве ніколькі не арыентуюцца на тое, каб, калі можна так сказаць, сарваць грошы на цане. Яна ўвогуле складваецца ў адпаведнасці з плацежаздольным попытам насельніцтва. Мы пры гэтым зацікаўленыя ў яшчэ большым попыце на нашу прадукцыю і, у прыватнасці, на дзіцячы абутак (той аб'ём, які мы цяпер выпускаем, ужо нялёгка прадаваць). І, напрыклад, у свой час набылі машыну для ліцця падэшваў, кошт якіх (вядома, імпартных) даволі значна ўплывае на цану гатовай прадукцыі.

**— З набыццём абутку, у тым ліку і дзіцячага, раней былі пэўныя праблемы. Цяпер, можна меркаваць, такіх праблем практычна не існуе, рынак даволі насычаны. Як гэта адбіваецца на вашай рабоце?**

— Наконт насычанасці рынку я не пагадзіўся б: ён яшчэ далёка не такі, якім павінен быць, у нас яшчэ мала абутку. Так, у нашым класе абутку на гэтым рынку практычна ўладарым толькі мы. Хіба што апошнім часам на яго сталі актыўна пранікаць расійскія абутнікі, якія прапануюць прадукцыю такога ж класа. А павінны быць шырока прадстаўлены, акрамя іх, і італьянскія «Натурына», і «Кіко», і нямецкі «Элефантен», і знакаміты «Батя», і іншыя еўрапейскія гандлёвыя маркі. Вось тады мы ўбачылі б і зразумелі б, што такое жыць у сапраўдным еўрапейскім рынку. І да гэтага мы прыйдзем, да гэтага трэба рыхтавацца загадзя. Зразумела, рыхтавацца вытворцам... Што датычыць нашага прадпрыемства, то яно ўсе гэтыя гады актыўна супрацоўнічала з Еўропай, за гэты час шмат зроблена па перааснашчэнню вытворчасці новым абсталяваннем, такое абсталяванне (у прыватнасці італьянскае) манціруецца і цяпер. Усё гэта павінна даць свой плён, хоць, вядома, і нам на гэтым рынку будзе нялёгка. Паўтару: ужо сёння сур'ёзна заяўляюць пра сябе расійскія вытворцы абутку, і хоць сапраўднай канкурэнцыі з іх боку на нашым рынку пакуль што яшчэ няма, але іх інтэрвенцыя намі ўжо добра адчуваецца.



**— Віталій Станіслававіч, вы працуеце без праблем?**

— Ну, гэтага сказаць ніяк нельга. Праблемы абавязкова з'яўляюцца ўжо перад падрыхтоўкай да кожнага новага сезона. Праблемы бываюць у адносінах з гандлем, ці дакладней — прадстаўнікамі асобных гандлёвых арганізацый, увесь маркетынг якіх пры заказе нашай прадукцыі зводзіцца да наступнага: ну давайце паглядзім, як пойдзе вось гэта, вось гэта і вось гэта... А адна з найбольш адчувальных праблем, якую зведваюць усе абутнікі рэспублікі і якая нярэдка адбіваецца на тэрмінах запуску новага асартыменту, заключаецца ў наступным: у нас практычна адсутнічае так званая інфраструктура абутковага бізнесу, і нам усякія там шнуркі, маланкі даводзіцца шукаць па польшчах ды італіях. Нават з набыццём асноўнай сыравіны — скуртавару часам бываюць праблемы. А павінна б быць так: у нас заўсёды павінны таптацца нашы патэнцыяльныя партнёры (прычым не адзін і не два), прапануючы нам выключна ўсё, што патрэбна для пашыву абутку...

**— І нарэшце, што ў перспектыве ў «Чэўляра»?**

— Па-ранейшаму працаваць на попыт, прычым асабліва маючы на ўвазе новыя калекцыі, новыя мадэлі, на якія гэты попыт поўнасцю не задавальняецца. На бліжэйшую перспектыву таксама ставіцца задача па задавальненню попыту на абутак 32—37 памераў для дзяўчынак (тут жа зазначу: мы выпускаем дзіцячы абутак з 19 па 40 памер наступных груп: ясельны, маладзіцячы, дашкольны і школьны). І, напэўна, наша больш маштабная задача: гэта значна шырэйшае асваенне вырабу мужчынскага абутку (сапраўдны рынак патрабуе і большай універсальнасці). Вядома, мы пры ўсім гэтым будзем цвёрда трымацца ў сваёй асноўнай нішы. «Чэўляр» не павінен зніжаць і свой экспартны патэнцыял. А сёння мы экспартуем каля 40 працэнтаў абутку — пераважна ў Расію і ва Украіну, а разам з тым у Францыю, Бельгію, Англію і Італію...

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

***НА ЗДЫМКАХ: узоры дзіцячага абутку, які выпускае «Чэўляр»; вітрына «Чэўляра» ў гандлёвым доме «На Нямізе».***

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# Прызнанне ў любові праз дзесяць гадоў

Сёння я хачу прызнацца ў любові. Раблю гэта на людзях нячаста, таму неяк непрывычна і нават крыху няёмка сябе пачуваю. Але гэта пачуццё мае права на публічнасць, бо сёлетняй восенню ўжо дзесяць гадоў, як я выношваю яго ў душы. «Хіба гэта шмат?» — скажа нехта. Зусім нямнога, пагаджуся я. І тут жа запярэчу: але ж гэта больш за трэць усяго майго жыцця. Так што гэта любоў ужо правераная і загартаваная часам. І вельмі хачу на тое спадзявацца, што яна ў гэтым шалёным і нярэдка нават бесталковым жыцці так і застанецца нязменнай і хоць трошкі, хоць на нейкае каліва (мне, максімалістцы па натуры, як ні дзіўна, тут зусім нямнога трэба) узаемнай.

У гэтага пачуцця ёсць свая перадгісторыя. Усё пачыналася з казкі. Ці з казачнага свята, калі хочаце. З самага яркага ўражання дзяцінства. Мы прыязджалі ў госці да бабулі і дзядзькі ў новую прасторную кватэру ў чырвонай дзевяціпавярхоўцы на вуліцы Галадзеда. Увечары, калі цямнела, дзядзька выводзіў мяне на балкон. І там адкрывалася сапраўднае дзіва, ад якога ў вясковага дзіцяці проста на некалькі хвілін займала дух. З дзядзькавага балкона было відаць Чыжоўскае вадасховішча, а за ім — Серабранка. Не помню, ці ведала я тады гэтыя назвы. Ды яны і не вельмі патрэбныя былі. Прама перад вачыма, зусім блізка і недасягальна далёка, гарэлі, як тады здавалася, мірыяды рознакаляровых агнёў. Тая безліч адбівалася ў цёмнай вадзе і ад гэтага станавілася большай удвая. Дарослыя тлумачылі, што гэта проста свецяцца вокны шматпавярховак у суседнім мікрараёне. Але я не верыла, бо гэткае дзіва не магло тлумачыцца так звычайна, і прыдумвала казачны свет, у якім начное неба разам з усімі сваімі зорамі раптам наблізілася да зямлі. Зоры сталі як блакітныя, чырвоныя, зялёныя маленькія сонцы, а неба, баючыся, што накрые сабой усё і ўсіх, прымасцілася неяк бокам на другім беразе вадасховішча. І заўсёды хацелася ісці яму насустрач, бо, здавалася, праз некалькі крокаў да зорак можна дацягнуцца рукамі.

Так адбылося наша знаёмства, такое было першае ўражанне, якое, як вядома, самае моцнае. Міналі гады, а Мінск так і заставаўся самым прыўкрасным на свеце горадам, які падарыў тое нябачанае больш нідзе дзіва і тое адчуванне незвычайнай блізкасці начнога неба. Ён быў марай, якая абавязкова павінна спраўдзіцца. Так, я марыла жыць у Мінску і ў запале юначай самаўпэўненасці нават думаць сабе не дазваляла, што можа быць неяк інакш.

Роўна дзесяць гадоў назад, у верасні 91-га, калі віравалі лёсаносныя для дзяржаў і народаў перамены, я прыехала яго заваёўваць. Толькі ступіўшы з запыленага аўтобуса на няроўны выбіты асфальт ягонага тлумнага шматлюднага вакзала, я паклялася сабе, што зраблю ўсё, каб гэты горад стаў маім. Так, бадай, абяцае сама сабе спакушаная ў насалодзе і каханні жанчына, што даб'ецца ўвагі таго адзінага, які падабаецца стакроць больш, чым усе астатнія паклоннікі разам узятыя, але які абсалютна да яе раўнадушны, нібы і няма яе ні побач, ні наогул на гэтым свеце...

Ён, як той спешчаны жаночай увагай фанабэрысты каханак, таксама быў напачатку чужы, раўнадушны і халодны. Па яго вуліцах ішлі натоўпы незнаёмых людзей, заклапочаных сваімі штодзённымі праблемамі, і нікому, нікому з іх зусім не было справы да цябе і да тваіх турбот. І ніхто з іх не жадаў табе добрага дня. Ён глядзеў паўз мяне тысячамі абыякавых вачэй, і былі моманты, калі іменна з-за гэтай яго абыякавасці я гатовая была кінуць усё і паехаць дадому, у родную цёплую хату, да спагадлівых шчырых людзей, якім заўсёды цікава, чым ты жывеш і што цябе хвалюе. Але гэта былі толькі імгненні слабасці, бо так лёгка здавацца я не прывыкла, тым больш што ён адкрываў і іншыя бакі сваёй сутнасці, якія былі новымі і прывабнымі для ўспрымання. Ён частаваў рознымі прысмакамі, якія былі яму не рэдкасць, а належнае (прайшло дзесяць год, а я дагэтуль успамінаю марожанае «Карпіджані», яно выраблялася па італьянскай ліцэнзіі і прадавалася на праспекце, у гастраноме, які мы звалі «Пад гадзіннікам». У ім трапляліся кавалачкі свежых фруктаў, і гэта была такая смаката!). Ён заваблівааў дыскатэкамі і кінатэатрамі. Самыя цікавыя, самыя лепшыя знаёмствы, якія пераралі потым у сапраўднае сяброўства, спраўдзіліся тады, на самым пачатку, дзякуючы іменна яму. Ён дарыў безліч магчымасцяў стаць тым, кім хацела: варта было праехаць некалькі прыпынкаў ад універсітэта на


Анатоль КЛЯШЧУК

метро, і ты ўжо апынаўся на праспекце каля двух старых пасляваенных будынкаў з магічнымі нумарамі 77 і 79: там месціліся стары Дом друку, рэдакцыі рэспубліканскіх газет — святая святых ці не для ўсіх студэнтаў журфака. Там таксама цябе надта ніхто не чакаў, але ж усе пачыналі з такога вось нясмелага стаяння ў дзвярах, і ты, суцешыўшыся гэтай думкай, аднойчы набіраў у лёгкія пабольш паветра і рашуча ступаў праз рэдакцыйны парог... Ён, гэты горад, падарыў першы май, калі Купалаўскі парк патанаў у квецені, калі на Стаханаўскай вуліцы, каля трактарнага завода, была сапраўдная таполевая завея, якая засыпала белым пухам і тратуары, і дарогу. І кожная рэдкая машына ўзнімала лёгкае воблака, якое ляцела да самых стрэхаў «сталінскіх» двухпавярховых дамоў. Гэты горад прывёў на першае, сапраўднае «дарослае» спатканне. На тым спатканні мой кавалер вырашыў падарыць мне букет цюльпанаў, што шыкоўна красавалі на вялікай клумбе ля помніка Купалу. Яго жаданне не вельмі спадабалася сталічнаму міліцыянеру, ён задуў у сваю свісцёлку і пагнаўся за намі. Канешне ж, не дагнаў, мы прыпусцілі па Інтэрнацыянальнай вуліцы, аж пяты мігцелі, дый ахоўнік парадку, напэўна, бег за намі проста дзеля забавы...

Гэты горад пакрысе завалодаў думкамі, пачуццямі, усёй маёй сутнасцю. Але гэта не было каханне, светлае і ўзаемнае. Да гэтага было яшчэ вельмі далёка. Гэта было жорсткае процістаянне, сапраўдная барацьба за выжыванне. Бо ён, з незвычайнай сілай прыцягваючы і часам бессаромна мной карыстаючыся, мог у любы дзень проста адштурхнуць, адмовіцца, кінуць. Як страшная здань стаяла за спінай верагоднасць, закончыўшы універсітэт, апынуцца за межамі Мінскай кальцавой дарогі. Ён, гэты горад, пры ўсёй сваёй бесклапотнасці і весялосці, быў, дый застаецца, жудасным бюракратам. Пазначыўшы з самага пачатку мой пашпарт часовай — на тэрмін вучобы, прапіскай, ён здзекліва чакаў, што ж я буду рабіць пасля... Зрэшты, як і кожнага бюракрата, яго аказалася магчымым падкупіць. У яго занадта многа лішняй жылплошчы і прагных дзяцей, якія не маюць нічога супраць, каб на гэтым зарабіць...

Дзіўна, але пачуццё сапраўднай любові з'явілася іменна тады, калі я апынулася на мяжы расстання з ім — апошняй студэнцкай восенню. Тады не было нічога ясна ні з работай, ні з жыллём, ні з прапіскай. І тут прыйшло разуменне, што я проста не змагу без яго жыць. Я не магла ўявіць свайго жыцця дзесьці ў іншым, няхай сабе нават лепшым месцы, дзе не будзе соннай Свіслачы, Траецкага, у якім водар кавы лунае па вузенькіх вулках, Чырвонага касцёла, дзе заўсёды светла і хораша думаецца, Купалаўскага тэатра, у якім не прапускалі ніводнай прэм'еры... Ён, напэўна, зразумеў гэта і пакінуў мяне пры сабе, як самую верную і адданую наложніцу. Ён даў магчымасць зняць невялікую хрушчоўку на цяністай Сонечнай вуліцы. Я пражыла там тры гады, пэўна, самыя спакойныя і лепшыя гады ў маім жыцці...

А гады два назад я знаёмілася з ім наноў. Гэта было нешта незвычайнае, дзівоснае, амаль як тады, калі начная Серабранка здавалася пастаўленым на бок небам. Я адкрыла для сябе яго старыя назвы. Яны з'явіліся сапраўдным дзівам, нібы з-пад грубай сучаснай атынкоўкі старажытнага будынка праглянула раптам дзівоснай прыгажосці фрэска, напісаная стагоддзі назад. Я цяпер гляджу на горад іншымі вачыма. Я люблю хадзіць па цэнтры і ўяўляць, як на плошчы Свабоды бойка гандляваў калісьці Высокі рынак, стаяла ратуша, а там, дзе бярэ пачатак праспект Машэрава, упіраўся падмуркам у зямлю Мінскі замак. Я ведаю, дзе калісьці несла свае вольныя воды крывавая Няміга, я хаджу цяпер не па Камсамольскай вуліцы, а па Феліцыянаўскай, не па Рэвалюцыйнай, а па Койданаўскай, не па Інтэрнацыянальнай, а па Валоцкай... Я ведаю, што за сучасным гмахам гатэля «Беларусь» тоненькай ручаінкай бяжыць у Свіслач старажытная Пярэспа, з якой звязана самае прыгожае паданне пра імя горада. А на ўскраіне, дзе вуліца Малініна, здаецца, і цяпер чуваць гул вадзяных млыноў і пахне цёплай свежай мукой: там калісьці было прадмесце Срэбныя Млыны...

Дзіўна (а можа, так яно і павінна было быць?), але разам з гэтым веданнем, якім спяшалася падзяліцца з усімі знаёмымі і незнаёмымі людзьмі, прыйшло, нарэшце, і адчуванне, якога так доўга дабівалася, што нават забылася, якім яно павінна быць. Гэты горад мяне прыняў. Гэта — мой горад. Я ў ім свая, і калі нават сама захачу пакінуць яго, ён цяпер наўрад ці мяне адпусціць...

Былі за дзесяць гадоў іншыя гарады. Была зялёная Варшава з Каралеўскім паркам, у якім задумаўся на стагоддзі маэстра Шапэн. Была замроеная снежаньскім туманам Вільня з сівой вежай Гедыміна, з лёгкай готыкай святой Ганны. Была залатая асенняя Масква з раскошай шматлікіх купалоў. Быў засмужаны Пецярбург, убачаны з вышыні птушынага палёту — каланады Ісаакіеўскага сабора. Быў Ніжні Ноўгарад з прыземістым крамлём і відовішчам, якое ўразіла назаўсёды: там зліваюцца дзве багатыркі — Волга і Ака. Былі беларускія гарады і мястэчкі, дзівосныя, непаўторныя ў сваёй сціплай красе, кожнаму з іх аддавалася часцінка сэрца... Але з усіх дарог я вярталася да яго, горада, які стаў горадам лёсу і жыцця. Ён мяне ўжо не адпускае, а я не вельмі і патрабую тае свабоды...

Ён па-ранейшаму часам праяўляе свой круты нораў, нібы выпрабоўвае на трываласць. Невялікі пакойчык у інтэрнаце — вось усё, што выдзеліў ён мне за дзесяць гадоў са свайго жылфонду. Але галоўнае, што гэты пакойчык і ёсць мой ДОМ у гэтым горадзе. Ён часам палохае шматлікімі зыркімі вокнамі, за якімі ніхто нават не здагадваецца аб маім існаванні. Але я ведаю, што недзе на іншай яго ўскраіне гарыць акно, і там не спіць адзін чалавек, таму што думае пра мяне... Ён часам хавае за сваімі шэрымі будынкамі гукі, пахі, колеры вясны, але затое адорвае пасля чароўнай восенню, якой няма больш нідзе на зямлі... Наша процістаянне працягваецца, але мы, правінцыялы, — людзі ўпартыя і ўчэпістыя, мы так лёгка не адмаўляемся ад тых, каго любім.

Як бы там ні было, я ўжо каторы год, едучы да мамы, кажу: «Я еду дадому», і гэту ж фразу паўтараю, калі вяртаюся ў Мінск. Не хлушу пры гэтым ні людзям, ні сабе, бо сапраўды так адчуваю. Дай Божа, каб яно так заўсёды і было.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

«ПРАМАЯ ЛІНІЯ» «ЗВЯЗДЫ»

**Дзмітрый КАПУСЦІН:**

# «Неўратызацыя грамадства дае аб сабе знаць і ў інтымным жыцці»

***(Заканчэнне. Пачатак у нумарах за 28 верасня і 2 кастрычніка)***

Калі тэлефоны нарэшце змоўклі, мы пазнаёмілі Дзмітрыя Зіноўевіча з пісьмамі, якія прыйшлі ў рэдакцыю на яго адрас, у тым ліку па электроннай пошце, і з пытаннямі, якія нашы чытачы прадыктавалі па тэлефоне раней.

**З пісьма ў рэдакцыю:** *«Хачу падзякаваць рэдакцыі за магчымасць атрымаць кваліфікаваны адказ. Доўга думала, перш чым рашылася напісаць. Справа ў тым, што я вельмі «закрепощенная» ў сексуальным плане. Маё выхаванне не дазваляе мне быць больш актыўнай і, магчыма, прынесці каханаму чалавеку большае задавальненне. Праўда, ён сцвярджае, што мая пасіўная роля яго не засмучае і што яму добра са мной. Але ж хіба так бывае пры поўнай пасіўнасці жанчыны?»*

— Пытанне не мае адназначнага адказу. Ёсць мужчыны, якія ўспрымаюць пасіўную ролю жанчыны як сведчанне ўласнай дамінанты. Навучыць гэтую шчырую дзяўчынку быць больш актыўнай — магчыма, разваліць іх адносіны. А мо гэта іх стыль? Я памятаю, мы ў сябе ў цэнтры кардынальна дапамаглі мужу, які прыйшоў да нас па прычыне ранняга аргазму. Праз нейкі час наведалася з прэтэнзіямі жонка: «Што вы нарабілі? Я вас прасіла?» Аказваецца, у яе пэўныя праблемы са здароўем, і ўзрослыя магчымасці мужа ёй сапраўды не патрэбны. На жаль, па гэтай прычыне пара распалася, яны разышліся. Так што людзі павінны перш за ўсё самі дамовіцца і высветліць, што ім патрэбна.

**З пісьма па электроннай пошце:** *«Маё пытанне датычыцца так званай тэорыі «свежай крыві». У народзе лічаць, што кроў мужчыны і жанчыны «абнаўляецца» адпаведна кожныя 3-4 гады, і пол дзіцяці залежыць ад таго, чыя кроў — бацькі ці маці — будзе ў момант зачацця «свежай».*

— Такіх тэорый вызначэння полу дзіцяці не адзін дзесятак. І ніводная не з'яўляецца дакладнай. Памятаеце, была «тэорыя»: каб нарадзіўся хлопчык, трэба спаць у ботах. А хочаш дзяўчынку — еш больш салодкага. Я не магу сказаць, якое гэта мае практычнае значэнне.

**Аўтар (дакладней аўтарка) наступнага пісьма** *прасіла патлумачыць, ці магчыма апладненне яйцаклеткі пры пэўных умовах. Дзмітрый Зіноўевіч раіць нашай чытачцы звярнуцца ў спецыялізаваны цэнтр, які размешчаны ў 7-й клінічнай бальніцы Мінска.*

Мы ўжо казалі, што некалькі тэлефонных званкоў паступіла раней. **Малады жыхар адной з вёсак на Міншчыне:**

*— Даўно, са школьных гадоў, займаюся ананізмам...*

— Мастурбацыя — даволі тыповая з'ява для пэўнай узроставай групы, тых жа падлеткаў. Для іх гэта эксперымент над уласнай сексуальнасцю. У дарослых такой патрэбы практычна няма, і яны перастаюць мастурбаваць, калі жывуць рэгулярным палавым жыццём. Але існуе невялікая група людзей, для якіх складана пераключыцца на нармальныя палавыя адносіны. Гэта ўжо пытанне псіхікі, а магчыма, і наяўнасць нейкай паталогіі. Я хацеў бы асабіста шмат пра што запытацца ў гэтага хлопца. І запрашаю яго да сябе. Зробім патрэбныя аналізы, заадно адкажам на яго пытанні.

**Жыхарка Мінска:**

*— У адным са сваіх інтэрв'ю «Звяздзе» вы расказвалі, што ў Беларусі маецца магчымасць змяніць пол. Ці многія выкарысталі гэтую магчымасць?*

— Усяго падалі заяў на змену полу 86 чалавек. З іх 22 мы ўжо далі дазвол. Калі не памыляюся, 12-ці на базе Мінскай абласной бальніцы зроблена карэкцыя полу. Працэдура гэта працяглая, юрыдычна і фізічна складаная, таму ёю займаецца спецыяльна створаная рашэннем урада міжведамасная камісія па медыкапсіхалагічнай і сацыяльнай рэабілітацыі асоб з сіндромам адмаўлення полу пры Мінздраве. А заявы прымаем мы. Гэты сіндром характэрны і для транссексуалаў, і для трансвестытаў, гомасексуалістаў, псіхічных хворых і нават псіхапатаў. Таму даводзіцца скрупулёзна разбірацца.

Усе 12, якія прайшлі праз вельмі складаную шматэтапную хірургічную аперацыю (дакладней будзе сказаць — праз некалькі аперацый) — жанчыны, якія захацелі стаць мужчынамі. Ёсць таксама чалавек 7 ці 8 мужчын, якія адмаўляюцца ад свайго полу.

**Студэнт з Брэста:**

*— У чым прычына злачынстваў на сексуальнай глебе?*

— Гэта дэманстрацыя сілы, варыянт садызму. У аснове яго недзе глыбока схавана праблема адносінаў з маці, яшчэ ў дзіцячым узросце. Гэта хлопчык, адарваны ад маці, ці не любімы, мала любімы. У тым ліку і той, якога рана аддалі некуды з сям'і, нават у дзіцячы садок. Не здзіўляйцеся, там ён не трапляе ў поле любові. Не выпадкова нашы маскоўскія калегі кажуць: задача сучаснай сексапаталогіі заключаецца ў тым, каб зрабіць усё неабходнае і закрыць дзіцячыя яслі! Зрабіць так, каб дзеці да трох гадоў былі пры маці. Адчувалі абарону і спакой пастаянна. Калі мама аддала яго некуды, у тыя ж яслі, гэта адназначна ўспрымаецца маленькім чалавекам як здрада, за якую ён потым будзе помсціць.

А калі мы гаворым пра такую з'яву як прастытуцыя, то трэба ведаць, што на гэтую сцяжыну найчасцей становяцца недалюбленыя мацяркамі, недаласканыя імі дзяўчынкі. Яны ўсё жыццё падсвядома шукаюць ласку ў чужых пасцелях. Так што дзеці ў сям'і павінны быць жаданымі.

**Мінчанін, 35 гадоў:**

*— Ці не пара легалізаваць прастытуцыю? Выйграюць усе бакі.*

— Я супраць. Прайграе грамадская мараль.

**Інжынер, 30 гадоў, Мінск:**

*— Чытаў недзе, што прэзерватыў не абараняе ад СНІДу.*

— Няпраўда. Якраз абараняе. Пытанне ў якасці, а яна розная. Самымі якаснымі лічацца англійскія, там найбольш жорсткія нарматывы.

**Настаўніца Вольга Уладзіміраўна, Мінская вобласць:**

*— Амерыка адмовілася ад сексуальнай разняволенасці, дакладней — распушчанасці. На першым плане там зараз сям'я. Ці хутка мы вернемся да спрадвечных славянскіх каштоўнасцяў — сціпласці, цнатлівасці, вернасці, у тым ліку ўласнай сям'і?*

— Добрае пытанне. Трэба думаць, што вернемся. І ўсе павінны нешта для таго рабіць — і вы, настаўнікі, і мы, урачы, і сродкі масавай інфармацыі. Трэба фарміраваць культ сям'і. Толькі ў сям'і чалавек найбольш паспяхова вырашае і тыя праблемы, пра якія мы сёння гаварылі. Вядома ж, у добрай сям'і, дзе шануюць адзін аднаго і гатовы зразумець. Кожная пара шукае і «піша» свой сцэнарый адносінаў. Увогуле існуе 45 тысяч нармальных сексуальных праяў. Не трэба баяцца самаўдасканальвацца, цалкам аддаць сябе каханаму чалавеку. А не шукаць асалоду толькі для сябе. Так што я шчыра жадаю ўсім чытачам «Звязды» ўзаемнай любові.

**«Прамую лінію» падрыхтаваў і правёў Уладзімір БЯРЭЗІН.**

БЯСПЕКА РУХУ

# ДАІ не дае спуску злачынцам і п'яніцам

**За 9 месяцаў гэтага года супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі выявілі 8734 злачынствы і адшукалі 750 скрадзеных аўтамабіляў, прыцягнулі да адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у нецвярозым стане амаль 63 тысячы вадзіцеляў.**

Наша грамадства ўсё больш актыўна расслойваецца на вадзіцеляў і пешаходаў. Прычым шэрагі кіроўцаў транспартнымі сродкамі растуць вельмі хутка: штогод у Беларусі ўладальнікамі запаветнага вадзіцельскага пасведчання становяцца каля 200 тысяч грамадзян, рэгіструецца прыкладна 300 тысяч аўтамабіляў. Цяпер у нашай краіне зарэгістравана прыкладна 2 мільёны 800 тысяч транспартных сродкаў. Зразумела, што пры такіх тэмпах «аўтамабілізацыі» краіны больш напружанай становіцца і сітуацыя на дарогах. А супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі Беларусі апошнім часам сталі ў прамым і пераносным сэнсе фігурамі вельмі прыкметнымі. Не дзіва, што прэсканферэнцыя, у якой прынялі ўдзел першы намеснік кіраўніка міліцыі грамадскай бяспекі МУС краіны **Іван ДУБІК,** выконваючы абавязкі начальніка ДАІ **Валерый ТРУБНІКАЎ** і намеснік начальніка ДАІ **Аркадзь ЦЭХАВОЙ** выклікала вялікую цікавасць журналістаў.

Палкоўнік Трубнікаў падчас свайго выступлення адзначыў, што галоўнай задачай Дзяржаўтаінспекцыі было і застаецца зніжэнне колькасці аварый на дарогах. За 9 месяцаў гэтага года ў краіне адбыліся 4902 дарожна-транспартныя здарэнні, у якіх загінула 1078 чалавек. І хоць гэта на некалькі працэнтаў менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года, кіраўніцтва ДАІ не лічыць, што сітуацыя на дарогах істотным чынам палепшылася. Бо павялічылася колькасць п'яных за рулём транспартных сродкаў. Сёлета, напрыклад, супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі прыцягнута да адказнасці за кіраванне аўтамабілем у нецвярозым стане 63 тысячы вадзіцеляў, што на 5 працэнтаў больш чым летась. Па віне п'яных вадзіцеляў, між іншым, сёлета ўчынена 17 працэнтаў дарожна-транспартных здарэнняў.

Да таго ж амаль 700 тысяч кіроўцаў пакарана за перавышэнне скорасці. Не вельмі дысцыплінавана паводзяць сябе на дарогах і пешаходы. За згаданы перыяд 650 тысяч пешаходаў прыцягнута да адказнасці за парушэнне правілаў вулічнага руху.

Дарэчы, Валерый Трубнікаў падкрэсліў, што выяўленне парушальнікаў для ДАІ не з'яўляецца самамэтай. Ён, сярод іншага, заявіў: «Вал нам не патрэбен. Заробак за колькасць аштрафаваных нам ніхто не павышае. Галоўнае, каб быў належны парадак на дарогах».

ДАІ не толькі кантралюе сітуацыю на дарогах, але і актыўна змагаецца са злачыннасцю. За 9 месяцаў гэтага года супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі было выяўлена 8734 злачынствы і адшукана 750 скрадзеных аўтамабіляў. Усяго ж сёлета лічылася ва ўгоне каля 1500 аўтамабіляў.

Вялікае значэнне кіраўніцтва Дзяржаўтаінспекцыі надае выкараненню сярод супрацоўнікаў хабарніцтва і хамства. Сёлета з ДАІ за розныя парушэнні было звольнена прыкладна 20 супрацоўнікаў. Усяго ж у сістэме Дзяржаўтаінспекцыі служаць каля 4 тысяч чалавек. Палкоўнік Дубік, карыстаючыся магчымасцю, звярнуўся да вадзіцеляў з заклікам: «Перастаньце прапаноўваць інспектарам хабар!».

Сапраўды, ці не прасцей сумленна заплаціць штраф, калі ўжо парушыў правілы. Іншая справа, калі сам «даішнік» вымагае «ганарар». У такіх выпадках кіраўніцтва Дзяржаўтаінспекцыі раіць неадкладна звяртацца непасрэдна ў ДАІ альбо ў МУС Беларусі.

І апошняе. Як паведаміў Аркадзь Цэхавой, у хуткім часе чакаюцца змены ў Правілах дарожнага руху. Па ягоных словах, наспела неабходнасць унесці каля 180 папраў і дапаўненняў у згаданы дакумент, які дзейнічае з 1 верасня 1996 года.

Праўда, палкоўнік Цэхавой падкрэсліў, што «рэвалюцыйных перамен» у Правілах дарожнага руху не плануецца. Адбудзецца іх узгадненне з дзеючым заканадаўствам. Таксама ДАІ мае намер удасканаліць працэс падрыхтоўкі вадзіцеляў аўтамабіляў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

## Noga спрабуе раздзець Пуціна, як толькі ён прыедзе ў Швейцарыю

**Швейцарская фірма Noga прыме спробу арыштаваць маёмасць прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, калі ён прыбудзе з візітам у Швейцарыю.**

Гэта будзе зроблена, каб вярнуць хоць бы частку доўгу ў 63 мільёны долараў, які Расійская Федэрацыя павінна выплаціць фірме Noga па рашэнню міжнароднага арбітража Стакгольмскай гандлёвай палаты, вынесенаму яшчэ ў 1998 годзе.

«Я атакую расійскія актывы там, дзе яны ёсць, — заявіў у інтэрв'ю газеце «Коммерсант» вядучы адвакат фірмы Noga Марк Бонан. — Так, мы з нецярпеннем чакаем візіту ў Швейцарыю прэзідэнта Пуціна. Паколькі ён і пальцам не паварушыў, каб заплаціць доўг сваёй краіны, мы прымем усе меры, каб была арыштавана маёмасць, якая будзе дастаўлена ў Швейцарыю разам з ім».

Гэты канфлікт цягнецца з пачатку 90-х гадоў. Тады Noga заключыла з урадам Расіі дагавор аб пастаўках прадуктаў, медыцынскіх прэпаратаў і ўгнаенняў у абмен на нафту. Аднак праз нейкі час расійскі бок скасаваў дагавор, палічыўшы яго нявыгадным для сябе. У сувязі з гэтым швейцарская фірма звярнулася ў суд з патрабаваннем выплаціць няўстойку, што агаворвалася ў кантракце. Яе іск быў задаволены.

Пасля гэтага Noga неаднаразова спрабавала арыштаваць маёмасць і ўклады, якія належаць расійскім установам і фірмам. У Францыі аб'ектамі такіх патрабаванняў былі ў 2000 годзе парусні́к «Сядоў», а ў 2001-м — ваенныя самалёты, якія ўдзельнічалі ў рабоце міжнароднага авіясалона ў Ле-Буржэ. Але ўсякі раз такія спробы кампаніі аказваліся беспаспяховымі.

Апошняя акцыя фірмы Noga — спроба канфіскацыі залогу ў 5 мільёнаў франкаў (каля 3 мільёнаў долараў), унесенага ў красавіку за вызваленне з-пад варты Паўла Барадзіна, таксама не ўдалася.

Але фірма мае намер працягваць свае спробы. «Мы не дадзім спакойна спаць расійскаму ўраду, пакуль ён не расплаціцца з намі, уключаючы выплату судовых выдаткаў, якія нам пакуль прыходзіцца несці па яго віне», — падкрэсліў Бонан.

## Клінтан страціў прафпрыгоднасць

**Па рэпутацыі экс-прэзідэнта ЗША Клінтана нанесены чарговы ўдар. Вярхоўны суд Злучаных Штатаў забараніў яму займацца юрыдычнай практыкай. Рашэнне вышэйшага судовага органа краіны дзейнічае пяць гадоў. Фактычна гэта азначае, што на адвакацкай кар'еры Клінтана пастаўлены крыж.**

З пачаткам эпохі Буша-малодшага сага аб клінтанаўскіх скандалах і судовых разборах здавалася завершанай. Пакідаючы вялікую палітыку, экс-прэзідэнт заключыў здзелку з незалежным пракурорам Робертам Рэем. Клінтан прызнаваў, што лгаў пад прысягай у справе аб яго сувязі з Монікай Левінскі, і ўзамен вызваляўся ад далейшага праследавання за лжэсведчанне. У рамках здзелкі Клінтан таксама абавязваўся выплаціць штраф у памеры $25 тыс. Пагадненне з незалежным пракурорам цалкам задаволіла камітэт па прафесійнай этыцы вярхоўнага суда штата Арканзас. Калегія адвакатаў штата вырашыла абмежавацца тым, што пазбавіла Клінтана адвакацкай ліцэнзіі на тэрыторыі штата Арканзас.

І вось праз восем месяцаў Клінтана напаткала новая порцыя помсты. Цяпер ужо вышэйшы судовы орган краіны сваім рашэннем пазбавіў экс-прэзідэнта права займацца юрыдычнай практыкай тэрмінам на пяць гадоў. Свой прыгавор суддзі сфармулявалі ўсяго адным сказам. Прычыны, па якіх у Клінтана адклікалася ліцэнзія, не называліся.

Цяпер, згодна з законам краіны, Клінтан можа абскардзіць рашэнне вярхоўнага суда на працягу 40 дзён. Ці будзе экс-прэзідэнт гэта рабіць, невядома. Большасць экспертаў перакананы, што будзе, хоць бы таму, што тое, што адбылося — адчувальны ўдар па яго рэпутацыі. Адкліканне адвакацкай ліцэнзіі ў ЗША раўназначна прызнанню маральнай і прафесійнай непрыгоднасці юрыста.

## Аб'яўлены ў вышук рэцыдывіст выйшаў з запою і вярнуўся ў калонію

**У Валгаградзе аб'яўлены ў вышук небяспечны рэцыдывіст Мікалай Часноўскі добраахвотна вярнуўся ў калонію.**

Прыгавораны да 15 гадоў пазбаўлення волі за забойства і адседзеўшы крыху больш за палову тэрміну рэцыдывіст за прыкладныя паводзіны быў адпушчаны ў 12-дзённы водпуск. Аднак, выйшаўшы на волю, ён не адзначыўся ў раённым АУС і не прыйшоў да жонкі і дзяцей. Пасля гэтага Часноўскі быў аб'яўлены ў вышук як уцёкшы. Пазней высветлілася, што ў час пошукаў ён знаходзіўся ў глыбокім запоі. Працверазеўшы, зняволены вярнуўся ў калонію.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

## Разгледжаны перспектывы супрацоўніцтва ў барацьбе з тэрарызмам

**У рамках правядзення пасяджэння Савета Цэнтральнай федэральнай акругі Расійскай Федэрацыі і ў адпаведнасці з пратаколам аб супрацоўніцтве паміж апаратамі Саветаў бяспекі Беларусі і Расіі, Расіі і Украіны 29 верасня ў Арле адбылася рабочая сустрэча Дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь Генадзя Нявыгласа, Сакратара Савета бяспекі Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Рушайлы і Сакратара Савета нацыянальнай бяспекі і абароны Украіны Яўгена Марчука.**

На ёй былі абмеркаваны актуальныя пытанні міжнароднай абстаноўкі. Асобая ўвага ўздзелена аналізу сітуацыі, што склалася пасля тэрарыстычных актаў у ЗША і напярэдадні сілавой акцыі ў Цэнтральнай Азіі.

У ходзе сустрэчы Дзяржаўны сакратар Савета бяспекі нашай краіны Генадзь Нявыглас выклаў бачанне беларускім кіраўніцтвам шляхоў вырашэння гэтай глабальнай праблемы сучаснасці, праінфармаваў калег аб мерах па барацьбе з тэрарызмам, што прымаюцца сілавымі структурамі. У прыватнасці, узмоцнена ахова дзяржаўнай граніцы, паветранай прасторы, праваахоўныя органы, спецслужбы праводзяць мерапрыемствы па прадухіленню магчымых праяў тэрарызму, ахове грамадскага парадку. Рэспубліка Беларусь разглядае тэрарызм як адну з галоўных пагроз цывілізацыі, міжнароднай бяспецы і выступае за аб'яднанне намаганняў сусветнага супольніцтва ў барацьбе з гэтым злом трэцяга тысячагоддзя. Наша краіна гатова да супрацоўніцтва.

Удзельнікі сустрэчы былі адзіныя ў думцы, што кіраўніцтва краін СНД, іх сілавыя структуры і апараты Саветаў бяспекі могуць і павінны адыграць важную ролю ў процідзеянні міжнароднаму тэрарызму. Адзначана значэнне дзейнасці Антытэрарыстычнага цэнтра СНД і яго філіяла ў Бішкеку. Была разгледжана ініцыятыва расійскага боку аб стварэнні ў інтарэсах удасканалення каардынацыі Камітэта сакратароў Саветаў бяспекі краін СНД.

На трохбаковай сустрэчы ў Арле таксама разглядаліся перспектывы супрацоўніцтва паміж апаратамі Саветаў бяспекі ў адпаведнасці з зацверджанымі планамі, пытанні рэалізацыі канкрэтных праектаў, прыгранічнага супрацоўніцтва трох краін у эканамічнай сферы і дзейнасці праваахоўных органаў з мэтай спынення тэрарызму, незаконнай міграцыі, кантрабанды, наркагандлю і іншых злачынных праяў.

Гэтыя праблемы таксама будуць абмеркаваны на нечарговым пасяджэнні Камітэта сакратароў Саветаў бяспекі дзяржаў — удзельніц Дагавора аб калектыўнай бяспецы ў Душанбе, запланаванай на кастрычнік. У якасці назіральнікаў у ім прымуць удзел і прадстаўнікі краін СНД, якія не ўваходзяць у Дагавор.

**Генадзь ХУДЗІНСКІ.**

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ

## *У «валютчыка» канфіскавана буйная сума*

**Няўдалым аказаўся панядзелак для жыхара Брэста. Праўда, вінаваты ў гэтым ён сам, бо зарабляў грошы незаконным шляхам, а дакладней кажучы, праводзіў незаконныя валютныя аперацыі.**

Затрымалі брастаўчаніна супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю на калгасным рынку. У «валютчыка» канфіскавана 5 тысяч долараў ЗША, 370 тысяч беларускіх рублёў і 300 расійскіх.

**Аляксандр ВАСІЛЬЕЎ.**

## *Гэта ж трэба так пераблытаць...*

**Траім работнікам КСУП «Аляксееўскі», што ў Жыткавіцкім раёне, хацелася выпіць ужо з самай раніцы.**

Прама ў пачатку рабочага дня. Адзін з іх, у якога былі ключы ад памяшкання з атрутнымі рэчывамі супраць рознага роду каларадаў, драцянікаў і г. д., даў іх чацвёртаму працаўніку, рабочая вопратка якога была напярэдадні пакінута ў тым памяшканні (апошні хацеў забраць яе адтуль), і той паспеў па іх просьбе заадно прынесці ім з памяшкання бутэльку з вадкасцю (іх там некалькі, але ты прынясі вось такога колеру), бо дужа хацелася пахмяліцца.

І вось што атрымалася. Адзін з выпіўшых на матацыкле паехаў у сваю брыгаду і сканаў там. Двое ж, адчуўшы, што іхняе нутро рве на часткі нейкая нязведаная сіла, неадкладна звярнуліся да медыкаў: ратуйце! Зараз ідзе змаганне за іх жыццё. А той, што пераблытаў бутэлькі, ірве на сабе валасы: у чым яго віна?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**




***Група вядомых беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, кіраўнікоў грамадскіх арганізацый падпісалі заяву «За выратаванне мемарыяла Курапаты».***

***У ліку тых, хто падпісаў гэты дакумент, народныя пісьменнікі Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі — усяго больш як 40 чалавек. Аўтары заявы выказваюць занепакоенасць тым, што ў раёне масавых расстрэлаў савецкіх грамадзян у 30—40-х гадах вядзецца будаўніцтва ўчастка Мінскай кальцавой дарогі. Як вядома, яшчэ ў 1993 годзе ўрочышча Курапаты было занесена ў Дзяржаўны рэестр гісторыка-культурных каштоўнасцяў.***

***Аднак сёння, лічаць аўтары звароту, «узнікла небяспека страціць наш нацыянальны некропаль «Курапаты»: пашырэнне кальцавой дарогі можа знішчыць магілы бязвінна забітых». Гэтымі днямі ў Курапатах устанаўліваюць крыжы — як памяць аб нявінных ахвярах.***

## *Заява прэс-сакратара МЗС Рэспублікі Беларусь*

Рэспубліка Беларусь вітае прыняцце рэзалюцыі 1373 Савета Бяспекі ААН аб барацьбе з міжнародным тэрарызмам. Рэзалюцыя прадугледжвае шырокі комплекс абавязковых для краін — членаў ААН мераў, закліканых пазбавіць міжнародны тэрарызм фінансавай і арганізацыйнай падтрымкі і стымуляваць больш эфектыўную барацьбу сусветнага супольніцтва з гэтым злом XXI стагоддзя.

Гэта рашэнне знамянуе не толькі адзінства членаў сусветнага супольніцтва ва ўсведамленні неабходнасці барацьбы з міжнародным тэрарызмам. Рэзалюцыя дэманструе рашучасць краін свету весці барацьбу з тэрарызмам сумеснымі комплекснымі намаганнямі, паслядоўна і жорстка. Рэспубліка Беларусь падтрымлівае выкладзены ў рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН падыход і мае намер канкрэтнымі дзеяннямі і далей дэманстраваць сваю прыхільнасць да антытэрарыстычнай салідарнасці ў рамках ААН і міжнароднага супрацоўніцтва па практычнаму процідзеянню тэрарыстычнай пагрозе.

**1 кастрычніка 2001 года.**

«ГАРАЧЫЯ» ТЭЛЕФОНЫ «ЗВЯЗДЫ»: 268-27-41, 268-27-57

## Грошай за жнівень у калгасе не бачыў ніхто

**Дачка жыхаркі вёскі Новы Двор Шчучынскага раёна Алены Вікенцьеўны Лазарэвіч працавала ў калгасе імя Фрунзе бухгалтарам. 20 жніўня з працы яна звольнілася. Знайшла новае месца, здаецца, задаволеная. Засмучае, бадай, адно: з ёй дагэтуль не разлічыліся ў калгасе.**

— Павінны былі грошы за ліпень і за 20 дзён жніўня. Праўда, мы бралі бульбу — 700 кілаграмаў, дык частка грошай пайшла за яе шляхам утрымання. У рэшце Святлане не выплацілі яшчэ 56 тысяч рублёў, хаця ведамасці запоўнены як мае быць. Як атрымаць сродкі? — прасіла маці за сваю дачку.

Галоўны бухгалтар гаспадаркі Алена Карпейчык паведаміла, што грошы Святланы, зробленыя ў ліпені, пайшлі на аплату бульбы, набытай у гаспадарцы. «За жнівень грошы не выплачаны не толькі аднаму гэтаму нашаму былому працаўніку. Няма фінансавых сродкаў, аб чым я, дарэчы, гаварыла з заяўнікамі. Увогуле, за жнівень у нас вялікая запазычанасць. Калі што зменіцца ў лепшы бок — сказаць цяжка».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



# Сядзіба

Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ.

№ 36 (559)

## Што трэба ведаць пра саджанцы

**У мінулым выпуску мы далі агульныя звесткі пра набыццё і пасадку (прыкопку) саджанцаў. Цяпер аб гэтым і іншым больш грунтоўна.**

Сам саджанец ад стволіка да каранёў без бачных хібаў, г.зн. роўненькі, дастаткова рослы (калі гэта і аднагодак), без механічных пашкоджанняў кары і галінак (двухгодкі), без хвароб, асабліва рака (язвачкі на кары, нечаканыя патаўшчэнні, ліст амаль што загніў). Карані абавязкова разгалінаваныя, жоўта-шэрага колеру. Не сухія, а намочаныя, закрытыя мохам ці плёнкай. На кожнай асобіне — бірка з назвай сорту. Ні ў якім разе не спадзявацца на сваю памяць.

Дома ці на дачы выкапаны ямкі. Як для дрэвападобных сартоў (яблыня, груша, сліва і вішня), так і для кустоў (парэчка, агрэст, маліна). Памеры іх розныя: першыя дыяметрам 90 см і глыбінёй да 70—80 см, другія ў два разы меншыя. На дно гэтых ямаў ці канавак-раўчукоў пасыпаны суперфасфат, калійныя і попел (адпаведна дзве сталовыя лыжкі з верхам першага, лыжку другога і шклянку трэцяга). Попел, безумоўна, будзе страчаны,



бо вымыецца вадою. Але кальцый, які ўтрымліваецца ў ім, раскісліць глебу і нават праз два гады суперфасфат і калій будуць ужыты каранямі дрэўца спаўна. Гэта ж адбудзецца і ў канаўках для кустоў. Там сыпаць тую ж лыжку з верхам на адзін пагонны метр, загортваць.

Адлегласць ад граніцы суседа для яблыняў і груш на моцных прышчэпах — да 3 (лепш 4) метраў, для вішань і сліў — 2 метры, для кустоў — 1 метр. Лепш, калі кожны гаспадар перад закладкай саду пагаворыць з суседам. Разам яны вызначаць агульную тактыку. І так, каб нават праз 15 ці 20 гадоў пасля закладкі ніхто не скардзіўся.



Адлегласць адной яблыні ці грушы ад другой у радках да 5-6 метраў (моцныя прышчэпы) і да 3—4 метраў — карлікі. Кусты парэчак і агрэсту садзяцца з інтэрвалам да 3 метраў (але не менш як 2).

Усё пра копку ям для вялікіх дрэў і пра самі пасадкі даведаецеся з малюнкаў. Заўважым, што свежы гной і нават паўперапрэлы класці ў ямкі нельга — будуць абпальвацца карані. У час вегетацыі газы ад гніення атруцяць і тыя з іх, якія выжывуць. На самі карані лепш класці чыстую чорную зямлю з верхніх слаёў глебы. Якраз для гэтых мэтаў мы яе складваем у адзін бок, а з нізінных слаёў — у другі (глядзі першы малюнак). Больш чорную зямлю можна аздобіць толькі попелам (ад паўшклянкі да шклянкі) і па дзве лыжкі з верхам суперфасфату і адной лыжкі калію. Большыя дозы і абавязковыя падкормкі даваць у час, калі расліна прыжывецца, выкіне зялёны ліст і ўтворыць значныя (да 10 см) параст-кі-сяголеткі. На другім малюнку паказана, як трэба абрэзаць дрэўца пасля пасадкі. Але гэта пажадана рабіць вясною будучага года. Тое ж робіцца з саджанцамі парэчкі і агрэсту (маліна абразаецца адразу). Парэчку і агрэст абразаць без страху. Можна пакінуць толькі тры-чатыры пупышкі. Вы ўбачыце, як дружна яны пойдуць у рост. А адрэзаныя часткі выдатных сартоў парэчкі можна выкарыстаць для самастойнай пасадкі чаранкамі.

## Нарыхтоўкі восені

### *Пяціхвілінка з яблыкаў*

**Гэта страва гатуецца хутка, але яе лепш гатаваць дваім. Тады атрымліваецца бесперапынны канвеер. Гэтую нарыхтоўку можна выкарыстаць у пірагах, аладках, з тварагом, у кашках. Людзі, якія адмоўна рэагуюць на цукар, могуць гатаваць яблычную страву без гэтага салодкага дадатку.**

Заўважым, што працэс нарыхтоўкі вельмі эканамічны, не патрабуе асаблівых навыкаў і вопыту. Усё можа выканаць і школьнік.

На шкляны 3-літровы слоік трэба 200—300 г цукру-пяску. Яго сыплем у каструлю з малой колькасцю вады і на слабым агні плавім.

Плады памыць, ачысціць ад насеннай камеры. Адразу класці ў каструлю патрэбнай ёмістасці. У сіропе яны не павінны падгараць, таму мяшаць страву драўлянай доўгай лыжкай як найчасцей.

Побач на другой гарэлцы стаіць чайнік. У вадзе ляжаць усе металічныя накрыўкі. Гарлавіну чайніка накрыць нашым шкляным слоікам (будзе стэрылізацыя). Вада ў чайніку закіпіць і пачне выконваць дзве работы: абясшкоджваць накрыўкі і прапарваць тару.

Яблыкам у самой каструлі (першая гарэлка) не даваць моцна кіпець. Мяшаць лыжкай. Праз 5 хвілін пасля закіпання прадукцыя размякне. З чайніка зняць шкляны слоік і без прамаруджвання запоўніць гарачай масай з каструлі. Не апячыцеся!

Другі памочнік вымае з чайніка накрыўку і накрывае слоік. Закатвае. Ставіць накрыўкай уніз ці кладзе на бок. Захутвае ў коўдру ці падушкі (дадатковае праграванне і стэрылізацыя).

Найбольш удалая «пяціхвілінка» якраз з пладоў («антонаўка», «уэлсі», «штрэйфлінг» і гэтак далей), якія не пераварыліся. Зняць з агню лепш раней, чым пазней. Усё дойдзе да кандыцыі пад падушкамі.

Захоўваюцца вельмі доўга — да двух гадоў. Умовы такія: адсутнасць святла і цяпла.

Прадукт без цукру трымаць на пліце крыху даўжэй (на 1-2 хвіліны). Будуць ужо 6- ці 7-мінуткі.

## Часнок зноў садзіцца ў зямлю

**З мноства агародных культур найбольшы час у зямлі праводзіць азімы часнок.**

Усяго два ці паўтара месяца таму мы яго выбіралі з градкі, клалі на падсушванне, даспяванне. А сёння вядзем пасадку для ўраджаю 2002 года. 300 дзён ён будзе знаходзіцца ў глебе. Так занатавана ў візітнай картцы гэтага прадукту.

Пры гэтым трэба не спазніцца. Да ўстойлівых маразоў горкая прадукцыя павінна абкараніцца. Толькі з карэньчыкамі, нават малюсенькімі, часнок вытрымлівае халады. Ранняй вясною пачынае вегетацыю, летам дае стабільныя і такія неабходныя для харчавання цыбуліны.

Месяцавы каляндар Вялічкі (глядзіце «Звязду» за 24 студзеня 2001 года) адвёў для часнаку ў кастрычніку толькі некалькі дзён. Пажадана якраз у іх і «ўцісноцца». Але можна і ў іншыя, так званыя паўспрыяльныя дні. Важна, каб спадарожнік Зямлі Месяц быў у найлепшых для часнаку знаках задыяка — Авене, Скарпіёне ці Стральцу. Фаза самога Месяца ўбываючая (часнок расце ў зямлі). У кастрычніку такія дні 4-5, 9-10, 17-21 чысла.

Азімы часнок — культура без асаблівых запатрабаванняў. Практычна расце на любых глебах. Выключэнне складаюць цяжкія заплываючыя ўчасткі з амаль паверхневым заляганнем грунтавых вод. Папярэднікі надзвычай пашыраныя — ранняя бульба, агуркі і памідоры, зяленіўныя культуры, гарох, капуста і гэтак далей. Не садзіць толькі там, дзе развіваўся гэты ж часнок і цыбуля.

Глебу перакапаць ці пераараць. Глыбіня пласта да 25 см. Унесці суперфасфат і калійныя. Па дзеючаму рэчыву прыкладна роўныя часткі — да 20 г на 1 кв. метр. Азотныя даваць як мага раней — першы раз па скарынцы лёду на градцы (15—25 г на кв.метр), а ў сярэдзіне—канцы мая яшчэ столькі ж у міжрадкоўі. Рыхліць, палоць і паліваць (калі суха).

Яшчэ вельмі важна выбіраць градку самую асветленую. Сонца, якое песціць азімы часнок з раніцы да вечара, якраз самы найлепшы «паганяты». Толькі на асветленым месцы (не ў цяні) растуць буйныя і якасныя галоўкі.

Можна абмежавацца адным гноем. Але гэты гной павінен быць перапрэлым ці паўперапрэлым. А найлепш падыходзіць кампост. На градку ў 10 кв. метраў класці да сямі вёдзер (60 кг). Зноў закопваць у глебу. Зверху перад наступленнем зімы раскідаць гной як мульчу. Гэты слой у 5—8 см будзе бы коўдра для зубчыкаў часнаку. Дождж і снег вымыюць пажыўныя рэчывы ў месцы залягання каранёў. Ураджай павысіцца ці не на трэць.

Адлегласць радка ад радка — 45—50 см, глыбіня пасадкі — да 3—5 см. Гэта дасць магчымасць з адной градкі сабраць два ўраджаі. Бо ў другой палове чэрвеня будучага года можна будзе пасеяць у баразнах зяленіўныя культуры ці нават моркву. Можна пасадзіць і раннюю бульбу расадай. У ліпені—пачатку жніўня часнок акуратна выбралі, пасаджаную бульбу акучылі двойчы з інтэрвалам у два тыдні і ў верасні сабралі.

Па такому ж метаду, як і часнок, варта вырошчваць і цыбулю. Асабліва тады, калі ў вас ёсць шмат дробных каліў. Як бы вы іх ні хавалі-песцілі, а за доўгую зіму яны захварэюць ці высахнуць. Давядзецца выкінуць. Пасаджаныя ў зямлю (нават самыя малыя) выжывуць і дадуць цудоўны ранні ўраджай.

АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

## Вы шуміце, бярозы

Песня «Вы шуміце, бярозы» Ніла Гілевіча і Эдуарда Ханка адразу была прынята народам. Пімен Панчанка, як толькі праслухаў яе летам 1986 года, у роздуме вымавіў: «Моцна!». Гэта была шчырая пахвала і музыцы новага твора, і яго паэтычнаму тэксту. Мелодыя песні, заснаваная на народных беларускіх і ўкраінскіх інтанацыях, па-сардэчнаму цёпла ўспрымаецца слухачамі і разам з вобразным тэкстам напаўняе іх разважлівай адвагаю, ператварае ў магутных волатаў, якіх ніколі нікому не скарыць.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

*Вы шуміце, шуміце*
*Нада мною, бярозы,*
*Калыхайце, люляйце*
*Свой напеў векавы.*
*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца старога*
*На духмяным пракосе*
*Недаспелай травы.*

*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца*
*старога,*
*Галавой на пагорак,*
*На высокі курган,*
*А стамлёныя рукі*
*Вольна ўшыркі раскіну,*
*А нагамі ў даліну —*
*Хай накрые туман...*

*Вы шуміце, шуміце*
*Нада мною, бярозы,*
*Асыпайце, мілуйце*
*Ціхай ласкай зямлю.*
*А я лягу-прылягу*
*Край гасцінца*
*старога,*
*Я здарожыўся трохі*
*Я хвілінку пасплю.*
*Вы шуміце, шуміце*
*Нада мною, бярозы,*
*Асыпайце, мілуйце*
*Ціхай ласкай зямлю.*

*Верш Ніла Нілевіча*

*Музыка Эдуарда Ханка*




# POST factum

### *Гэты дзень у гісторыі*

- **3 кастрычніка 1803 года** нарадзіўся Джон Горы, амерыканскі ўрач, які адкрыў асноўны прынцып халадзільных установак, калі сціснуты кампрэсарам газ ці вадкасць ахалоджваюцца пры расшырэнні ў час праходжання праз змеявік. Гэтага ён дабіўся, пабудаваўшы апарат ахаладжэння паветра для догляду хворых на жоўтую ліхаманку. Кінуўшы медыцынскую практыку, ён заняўся эксперыментамі па стварэнню ўстановак для вытворчасці лёду і ў 1851 годзе атрымаў першы ў ЗША патэнт на механічны халадзільнік.
- **У гэты дзень у 1895 годзе** нарадзіўся Сяргей Ясенін, вялікі рускі пісьменнік.
- **У гэты дзень у 1897 годзе** нарадзіўся Луі Арагон, французскі паэт, удзельнік і адзін з арганізатараў Супраціўлення.
- **3 кастрычніка 1945 года** ва ўзросце 10 гадоў Элвіс Прэслі прыняў удзел у конкурсе юных талентаў і заваяваў другі прыз — за песню «Старая авечка» ён атрымаў 5 долараў.
- **3 кастрычніка 1990 года** — уз'яднанне Германіі — Дзень Германскага адзінства.

### *Вось так!*

**70-гадовы егіпцянін Мустафа Эйд Саміда за сваё жыццё жаніўся шмат разоў. І разводзіўся шмат разоў. Па 203 разы на кожны акт змянення грамадзянскага стану.**

Саміда пачаў свой шлюбны марафон у 15 гадоў. Самы доўгі яго саюз працягваўся 10 гадоў. Самы кароткі — некалькі гадзін. Сам ён тлумачыць сваё «хобі» пошукам ідэальнай жанчыны. Цяпер Саміда свабодны, але хоча ў хуткім часе ажаніцца яшчэ раз (ці, можа, два разы, таму што ён возьме ў жонкі адразу дзвюх). «Я ніколі не прасіў рукі ні ў адной жанчыны, — гаворыць ён. — Яны самі хацелі мяне. Чаму? У мяне няма грошай, я дрэнна выглядаю, у мяне няма нічога, але быў ім патрэбны. Я заўсёды быў на іх баку. Маё жыццё — гэта грамадзянская служба». Ісламскія законы забараняюць жанчыне спаць з мужчынам, які не з'яўляецца яе мужам. Такім чынам, усе 203 жонкі Саміда проста былі вымушаны выходзіць за яго.

### *Дзесьці на белым свеце...*

**У тых, чый рабочы тыдзень працяглы, пры вяртанні дамоў застаюцца сілы толькі на тое, каб дабрацца да ложка. Рабочы тыдзень у Вялікабрытаніі — адзін з самых працяглых у Еўропе.**

Згодна з даследаваннем, праведзеным брытанскім Інстытутам кадраў і развіцця, амаль дзве трэці тых, хто працуе больш як 48 гадзін у тыдзень, лічаць, што стомленасць аказвае негатыўны ўплыў на іх палавое жыццё, паведамляе BBC.

Яшчэ больш заклапочаны такой сітуацыяй партнёры тых, хто працуе занадта многа — больш як палова з іх гавораць аб пагаршэнні ў сексуальных адносінах, аб пастаянных канфліктах дома. Двое з пяці чалавек, якія працуюць больш як 48 гадзін у тыдзень, адчуваюць сябе вінаватымі з-за таго, што стомленасць і занятасць не даюць ім выконваць сваю частку хатніх клопатаў. Амаль трэць прызнаюць, што іх сексуальнае жыццё не на вышыні. 14 працэнтаў апытаных паведамілі аб тым, што страцілі цікавасць да сексу ці аб значным зніжэнні палавой актыўнасці. Больш за ўсё негатыўныя эфекты вялікай працоўнай занятасці адбіваюцца на людзях сярэдніх гадоў і іхніх жонках і сяброўках.

### *Кажуць, што...*

**Вучні адной румынскай школы вывучаюць будову чалавека па шкілету былога дырэктара.**

Гэты чалавек памёр у сярэдзіне 50-х гадоў і ў завяшчанні ўказаў, што аддае сваё цела на патрэбы адукацыі. Шкілет высакароднага дырэктара захоўваецца ў спецыяльнай шкляной скрыні, паведамляе Ananova. com. Нягледзячы на тое, што па ім вывучылася некалькі пакаленняў школьнікаў, ён выдатна захаваўся. Пры гэтым настаўніца біялогіі з гэтай школы, якая лічыцца самай беднай у акрузе, кажа, што не ведае, колькі гадоў гэтаму шкілету і каму ён належыць.

### *Цікава*

**Прафесар Іан Філп, які атрымаў у Вялікабрытаніі «тытул» «цара старых» («old-age tsar»), правёў канферэнцыю, прысвечаную здароўю людзей старэйшага пакалення.**

На думку Філпа, залогам працяглага і здаровага, паўнацэннага жыцця з'яўляюцца секс і салідны банкаўскі рахунак. Сексуальна актыўныя старыя жывуць даўжэй і здаравей за тых, хто грэбуе сексам. Пажылым секс дапамагае захаваць здароўе, як любыя фізічныя практыкаванні, хоць цікавасць да сексу даўжэй захоўваецца ў жанчын. Мець дастатковую колькасць грошай таксама важна для здароўя. Несумненная сувязь паміж дабрабытам і здароўем даказана вынікамі многіх даследаванняў. Сямейныя людзі жывуць даўжэй чым адзінокія. А вось вера, на думку Філпа, не ўплывае на працягласць жыцця. Многія старыя не баяцца смерці, таму што зрабілі ў гэтым жыцці ўсё, што хацелі, іх жыццё было шчаслівым, яны зведваюць пачуццё глыбокага задавальнення пражытымі гадамі незалежна ад рэлігійных перакананняў.

### *Анекдот*

*— Я вас, здаецца, дзесьці бачыў?..*
*— Так, я там часта бываю.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, С. РАСОЛЬКА, Л.РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), Л. СВІДРЫЦКАЯ, В. ХУРСІК, С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: навінаў — 68-27-41, крымінальнай хронікі — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-27-57, культуры — 68-29-42, 68-27-51, пісьмаў — 68-28-27, 68-28-64, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; сакратарыята — 32-38-02, 68-28-15; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75; у Віцебску — 33-72-80, бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.* **«ДЛЯ ВАС»** *— 32-44-12.*
*ФАКС: 68-27-79.* ***html:*** *www.zvyazda.minsk.by* ***E-mail:*** *info@zvyazda.minsk.by*



Газета аддрукавана ў рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 69.633. Індэкс 63850.
Зак. № 5726.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12